БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 15 (13547)

6— 12 красавіка 1992 года

Цана 2 рублі.






## І Ў ЦЭН БЫВАЮЦЬ ЗУБЫ

Яшчэ месяц таму нашы крамы, у тым ліку і ГУМ, акрамя добрай парады, сапраўды нічога прапанаваць не маглі. Большасць тавараў, якія ў параўнанні з сусветнымі цэнамі каштавалі капейкі, імгненна "перакачваліся" на рынкі суседняй Польшчы. Цяпер жа сітуацыя іншая. Пэўны выбар ёсць, але колькі ўсё гэта каштуе! Вось пералік цэн на некаторыя тавары, якія можна было набыць у ГУМе на гэтым тыдні.

| | |
|---|---|
| Чамадан | – да 1000 рублёў. |
| Шклянка гранёная | – 1 рубель 80 капеек. |
| Гадзіннік | – да 1300. |
| Электрагрэлка | – 345. |
| Люстра (Баранавічы) | – 4756 рублёў. |
| Пральны парашок | – ад 7 да 77 рублёў. |
| Пража | – да 70 рублёў за 100 грам. |
| Дывановая дарожка | – 890 рублёў метр. |
| Падушка | – 420 рублёў. |
| Падкоўдранік | – 711 рублёў. |
| Ручнік | – 99 рублёў. |
| Прасціна | – 219. |
| Пальчаткі мужчынскія | – 798. |
| Тапкі хатнія | – 80 рублёў. |
| Кашуля мужчынская | – 229 рублёў. |
| Штаны | – 650 рублёў. |
| Кааператыўная куртка ("Аляска") | – 3000 рублёў. |
| Басаножкі | – 336 рублёў. |
| Шкарпэткі дзіцячыя | – 43 рублі 75 капеек. |
| Паўзункі | – 25 рублёў. |
| Спартыўны касцюм дзіцячы | – 568 рублёў. |
| Кепка | – 120 рублёў. |
| Шапка норкавая | – 6.486 рублёў. |
| Туфлі мужчынскія | – 465 рублёў. |
| Бюстгальтар | – 118 рублёў. |
| Трусы мужчынскія | – 53 рублі. |
| Гарнітур бялізны (нагавіцы і кашуля) | – 283 рублі. |

Тут жа побач валютны аддзел...

| | |
|---|---|
| Касцюм жаночы | – 100 даляраў – 10000 рублёў. |
| Красоўкі | – 12 даляраў – 1200 рублёў. |
| Відэамагнітафон | – 450 даляраў – 45000 рублёў. |
| Кашуля | – 27 даляраў 50 цэнтаў – 2750 рублёў. |
| Куртка скураная | – 156 даляраў 25 цэнтаў – 15 625 рублёў. |
| Спартыўны касцюм | – 62 даляры 50 цэнтаў – 6250 рублёў. |

Як бачым, наяўнасць тавараў на паліцах крамаў – следства амаль што недаступных цэн. У прынцыпе, тавары гэтыя набыць можна. Але тады прыйдзецца выбіраць – апрануцца ці паесці. Хіба можа зараз набыць сабе што-небудзь з прамтавараў чалавек, які жыве на мінімальную зарплату альбо на мінімальную пенсію – а такіх людзей на Беларусі большасць. Пакуль жа, калі са сваёй зарплаты сярэдні жыхар "прыватызуе" хаця б пару пальчатак, у яго меню застанецца толькі хлеб і вада.

Алесь Палынскі.

*Падзеі*

# ЗАБЫТЫ ЮБІЛЕЙ



4 красавіка споўнілася 435 гадоў з дня нараджэння канцлера Вялікага княства Літоўскага Льва Сапегі (1557–1633). Для беларусаў гэта адна з найвялікшых постацяў у гісторыі і культуры. Узяць хоць бы факт, вядомы ўсім: Леў Сапега з'явіўся складальнікам аднаго з першых у Еўропе зводаў нарматыўных прававых актаў "Статута Вялікага княства Літоўскага". І ў той час, калі еўрапейскае заканадаўства працавала пераважна на мове латыні, Леў Сапега ганарыўся, што ягоны "Статут" – беларускамоўны, зразумелы ўсім простым людзям ягонай дзяржавы.

Факты біяграфіі Льва Сапегі – уражальныя і павучальныя. Яны не страцілі сваёй выхаваўчай моцы і ў наш час, калі Беларусь вярнулася на шлях адраджэння, на шлях рэстаўрацыі свайго суверэнітэту. Аднак... ніякіх прыкметных святкаванняў такой выбітнай даты не было заўважана. І толькі камісія па гісторыі і культуры БНФ "Адраджэньне" наладзіла напярэдадні юбілею ў актавай зале Беларускага гуманітарнага ліцэя ў Менску прэзентацыю кнігі І.В.Саверчанкі "Канцлер Вялікага княства", якая выйшла ў выдавецтве "Навука і тэхніка".

На імпрэзе, якую вёў мастак Мікола Купава, выступілі доктар гістарычных навук, прафесар Язэп Юхо, рэдактар кнігі, мовазнаўца Зміцер Санько, рэцэнзент гісторык Генадзь Сагановіч і сам аўтар Іван Васільевіч Саверчанка. Сярод цікавых беларускіх кнігадрукаў тутака ж можна было купіць і прэзентаванае выданне ды адразу атрымаць аўтограф аўтара.

Не менш цікавай за выступы навукоўцаў была мастацкая частка прэзентацыі. Камерны хор "Унія" проста ўразіў публіку віртуозным выкананнем кананічных напеваў у апрацоўцы Гая Пікарды, твораў Міколы Равенскага, Міколы Шчаглова-Куліковіча. На еўрапейскім узроўні – натхнёна і ўрачыста – прагучалі ў выкананні хору "Унія" беларускія народныя песні. Многія слухачы, сярод якіх было і нямала моладзі, бадай, упершыню пачулі, як трэба правільна спяваць беларускія гімны "Пагоня" і "Мы выйдзем шчыльным радамі". Тут жа паведамілі, што больш падрабязна з хорам можна будзе пазнаёміцца 18 красавіка (а 17-й гадзіне) на ягоным канцэрце ў Мастацкім музеі.

Адкрыццём імпрэзы стаў камерны бардаўскі ансамбль Зміцера Сідаровіча "Камелот". Уласныя песні "А дзе ж тыя ваяры", "Краіна талераў", "Недалёка да світання" нібыта перанеслі нас у рамантычныя часіны беларускага сярэднявечча.

**Вітаўт Мартыненка.**
**Фота У.Панады.**

*Слова*

# НАКАРМІЦЕ ДЗІЦЯ

Каб суцешыць галоднае дзіця, трэба яго або накарміць, або адцягнуць увагу. Адцягнуць увагу лягчэй, чым накарміць, але справа ў тым, што рана ці позна накарміць прыйдзецца. І таму нельга бясконца адцягваць увагу.

**Фазіль Іскандэр.**

*Навіны культуры*

# ЖАН-ЛЮК ГАДАР У ГОСЦІ ДА НАС

Фестываль фільмаў гэтага сусветна вядомага рэжысёра пройдзе ў Мінску з 10 па 19 красавіка ў памяшканні ДК прафсаюзаў. Сустрэча мінскага гледача з Ж.-Л. Гадарам адбудзецца дзякуючы садзейнічанню Міністэрства замежных спраў Францыі і Музея кіно (г.Масква). У Мінску арганізацыяй фестывалю займаецца праграма "Элітарнае кіно".

**М. Шэндрык.**

# КАМІСІЯ ПАДВОДЗІЦЬ ВЫНІКІ

Камісія па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны працуе па комплексным плане, асновай якога з'яўляецца заканатворчая дзейнасць. З 21 чэрвеня 1990 года па 25 сакавіка 1992 года праведзена 67 пасяджэнняў камісіі, на якіх разгледжана звыш 140 пытанняў, якія датычаць самых розных накірункаў дзяржаўнай палітыкі, пытанняў, звязаных з развіццём народнай адукацыі, культуры, зберажэннем гістарычнай спадчыны і адраджэннем беларускай мовы.

За няпоўныя два гады працы камісія атрымала ад грамадзян і арганізацый 2116 лістоў, на якія дадзены адказы, па сваёй ініцыятыве накіравала ва ўстановы адукацыі і культуры, у праваахоўныя органы і іншыя арганізацыі рэспублікі 496 лістоў. Штодзённа членамі камісіі ажыццяўляецца прыём грамадзян рэспублікі.

Камісія падрыхтавала Закон Рэспублікі Беларусь "Аб культуры ў Рэспубліцы Беларусь", які быў прыняты 4 чэрвеня 1991 г. IV сесіяй. Гэты Закон распрацаваны ўпершыню не толькі ў нашай рэспубліцы, але і ў СНД. Ён накіраваны перш за ўсё на рэалізацыю суверэнных правоў Беларусі ў галіне культуры, стварэнне прававых умоў для свабоднага самаразвіцця культурных працэсаў і забеспячэнне матэрыяльных і фінансавых гарантый развіцця культуры і сацыяльную абарону работнікаў культуры ва ўмовах рыначных адносін.

Зыходзячы з Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, Закон "Аб культуры ў Рэспубліцы Беларусь" гарантуе жыццёвую неабходнасць адраджэння беларускай нацыянальнай культуры, захавання яе самабытнасці і стварэння спрыяльных умоў для яе далейшага развіцця.

Прыняты 29 кастрычніка 1991 года на сёмай сесіі Закон Рэспублікі Беларусь "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь" адпавядае патрабаванням сучаснасці, забяспечвае развіццё адукацыі, адпаведныя сацыяльна-эканамічныя ўмовы функцыяніравання гэтай сферы, правы грамадзян на атрыманне агульных і прафесіянальных ведаў, засваенне агульнакультурных каштоўнасцей, абарону інтэлектуальнай уласнасці, таленту і адукаванасці.

На вялікі жаль, увядзенне ў дзеянне толькі з 1 студзеня 1994 года абзаца 7 артыкула 34 у частцы ўстанаўлення сярэдняй стаўкі заработнай платы педагагічным работнікам і прафесарска-выкладчыцкаму саставу вышэйшых навучальных установаў, а таксама частку 1 артыкула 37 выклікала пэўную сацыяльную напружанасць сярод выкладчыкаў, якія патрабуюць неадкладнага ўвядзення ў дзеянне Закона "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь" у поўным аб'ёме.

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў падрыхтаваны Камісіяй па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Закон Рэспублікі Беларусь "Аб назве Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі" і ўнясенні змен у Дэкларацыю Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь і Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Рэспублікі Беларусь, Закон Рэспублікі Беларусь "Аб Дзяржаўным сцягу Рэспублікі Беларусь", Закон Рэспублікі Беларусь "Аб святочных днях у Рэспубліцы Беларусь", Закон Рэспублікі Беларусь "Аб Дзяржаўным гербе".

Унесены на разгляд 9 сесіі 12 склікання праект Закона Рэспублікі Беларусь "Аб ахове і зберажэнні гісторыка-культурнай спадчыны", падрыхтаваны праекты законаў Рэспублікі Беларусь "Аб бібліятэчнай справе ў Рэспубліцы Беларусь", "Аб нацыянальным архіўным фондзе і архівах Рэспублікі Беларусь", "Аб музеях у Рэспубліцы Беларусь".

Камісіяй сумесна з Акадэміяй навук Беларусі ўнесены ў Савет Міністраў рэспублікі прапановы аб стварэнні Беларускага нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны. Гэтае пытанне станоўча вырашана.

Дзякуючы намаганням членаў камісіі і яе кіраўніцтву і з улікам рэкамендацый камісіі ўрад рэспублікі сваім рашэннем стварыў новы орган кіравання культурай — Галоўнае ўпраўленне па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі і культуры пры Савеце Міністраў рэспублікі.

Згодна з планам работы камісіі шэраг важных пытанняў унесены на разгляд Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі, дзе прыняты адпаведныя пастановы "Аб правядзенні конкурсу на новы тэкст і музыку Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь", "Аб Тапанімічнай камісіі", "Аб рэарганізацыі справы гісторыка-культурнай спадчыны", "Аб стварэнні камісіі для распрацоўкі эталона Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь", "Аб зацвярджэнні эталона Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь і Палажэння аб Дзяржаўным гербе Рэспублікі Беларусь", "Аб зацвярджэнні Палажэння аб Дзяржаўным сцягу Рэспублікі Беларусь", "Аб мерах па спыненню прапаганды парнаграфіі, культу насілля і жорсткасці", "Аб беларускай мове ў сродках масавай інфармацыі".

Шмат увагі ўдзяляецца камісіяй кантролю за выкананнем законаў Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь", "Аб культуры ў Рэспубліцы Беларусь", "Аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі культуры".

Камісіяй зроблены немалыя намаганні па ўстанаўленню цесных сувязей з адпаведнымі камісіямі абласных, Мінскага гарадскога і раённых Саветаў народных дэпутатаў, з некаторымі з іх праведзена некалькі сумесных пасяджэнняў з шырокім абмеркаваннем падрыхтаваных законапраектаў аб культуры і адукацыі.

У мэтах абмену вопытам парламенцкай дзейнасці члены камісіі выязджалі для вывучэння работы адпаведных камісій Вярхоўных Саветаў у Маскву, Прыбалтыку, Украіну, а таксама ў Рэспубліку Польшчу.

Народныя дэпутаты знаёміліся з навучальным працэсам ліцэяў, школ Беласточчыны, дзе вядзецца выкладанне беларускай мовы як прадмета, перадалі навучэнцам беларускія падручнікі, мастацкую літаратуру, газеты, наладзілі дзейсную сувязь з Беларускім грамадска-культурным таварыствам у Беластоку, з беларускімі згуртаваннямі ў Вялікабрытаніі, Канадзе, ЗША, пазнаёміліся з працай Лонданскага музея-бібліятэкі імя Скарыны, беларускага танцавальнага ансамбля "Верасок" з Нью-Йорку.

Камісія па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны будзе і далей накіроўваць сваю працу на справу адраджэння беларускай нацыянальнай адукацыі і культуры.

**Анатоль Раманоўскі.**

# КУР'ЕР ТЫДНЯ

*Барыс СТРАЛЬЦОЎ, загадчык кафедры факультэта журналістыкі Белдзяржуніверсітэта:*



– Самае непрыемнае зараз – разлажэнне ў вышэйшых сферах улады. Адсюль і неразбярыха, запазненне ў прыняцці законаў. Відавочна, "наверсе" вырашаюць у асноўным свае пытанні. Асноўнае для іх – барацьба за ўладу. І былыя партнаменклатуршчыкі, і бэнэфаўцы ў першую чаргу імкнуцца ўзяць уладу ў свае рукі. Атрымліваецца, што Вярхоўны Савет па сутнасці страціў усялякі аўтарытэт – мы на яго нагледзеліся, зразумелі што гэта такое. Але ж і рэферэндум – дзе гарантыя, што новы Вярхоўны Савет будзе лепшы? Нават і цяперашні яго састаў няпоўны... Народ пасіўны, і няма ніякай гарантыі, што ён выбера лепшых, шчырых людзей, якія будуць сапраўды клапаціцца аб ім. Цяпер жа тыя, хто мае ўладу, карыстаюцца тымі ж дабротамі, што мелі ўладары ад кампартыі, – і лечкамісіі, і замежныя камандзіроўкі, і спецпайкі. Усё – за кошт народа і ўсё для сябе... А быў бы нармальны парламент, вартая, аўтарытэтная ўлада – і нам, і дзецям нашым жылося б лепш.

* * *

Ад рэдакцыі: *Мы рады за свайго старэйшага калегу, настаўніка Барыса Васільевіча Стральцова, якому прысуджана прэмія Канфедэрацыі саюзаў журналістаў СНД.*

*Серафім АНДРАЮК, галоўны рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура":*



– Я буду гаварыць з пазіцыі кнігавыдаўца. Мяне хвалюе дзікая камерцыялізацыя ў жыцці наогул, і асабліва – у духоўным жыцці. У застойныя часы ў людзей вытравілі нацыянальную свядомасць, звялі духоўны патэнцыял да выключна нізкага ўзроўню і цяпер кінулі ўсё ў разбэшчаны, дзікі, далёкі ад цывілізацыі рынак. Нацыянальная свядомасць не адродзіцца, калі ў адносінах да яе не будзе праяўлены клопат з боку дзяржавы.

Лёс беларускай кнігі пастаўлены ў залежнасць ад рынку. А чытача мы не выхавалі, і беларуская кніга стала нявыгаднай – ні гандлю, ні друкарам, ні – калі глядзець з фінансава-эканамічнага боку – выдаўцам. Каб беларуская кніга пайшла да чытача, патрэбна дзяржаўная ўвага і да кніг, і да іх чытачоў. Інакш заклік "Жыве Беларусь!" застанецца пустым гукам. Каб сапраўды жыла Беларусь, "беларускасць" – праз кнігу, праз школу, наогул праз культуру – павінна ўвайсці ў свядомасць кожнага беларуса.

* * *

*Чырваназменаўцы віншуюць калектыў выдавецтва "Мастацкая літаратура" з 20-годдзем і жадаюць творчых поспехаў змагарам за беларускую культуру.*

*Уладзімір КЛІМОВІЧ, адказны сакратар газеты "Культура":*



– Больш за ўсё непакоіць мяне тое, што ўрад нашай рэспублікі сёння ў роспачы перад пытаннямі і праблемамі, якія нечакана перад імі паўсталі. Страшнавата брацца за будоўлю дома, калі бачыш кучу цэглы, мяшкі з цэментам і цяжкія бетонамяшалкі. Вядома, узнікае жаданне аддаць, па старой звычцы, камусьці загад, каб тэрмінова ўзвялі дом: не будзеш мець вялікіх клопатаў, нават бруду не ўбачыш. А калі што не так, дык можна ўсе грахі спіхнуць на іншых... Але не – здаецца, скончыліся такія часы і застаецца адно з двух: альбо выліць 15 бетонамяшалак на кучу цэглы і акалець зімой, або ўзяць кожную цагліну (няхай іх хоць сотні тысяч) узважыць у руцэ і закласці ў сцяну на належнае месца. Можа, тады што і выйдзе.

*Шляхамі адраджэння*

## Нацыянальнай гісторыі — апеку дзяржавы

**Новае пакаленне будзе ведаць праўдзівую, непрыхаваную гісторыю Беларусі, калі пра гэта паклапоціцца ўрад.**

Удзельнікі "круглага стала" "Праблемы гісторыі Беларусі і яе выкладання ў навучальных установах рэспублікі", які праходзіў у Менску напярэдадні 74-й гадавіны абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, — гісторыкі Акадэміі навук Беларусі, прадстаўнікі навучальных устаноў і выдавецтваў, грамадскасці рэспублікі абмеркавалі асноўныя праблемы гісторыі Беларусі і яе выкладання, выказалі занепакоенасць адсутнасцю дзяржаўнай палітыкі ў даследаванні і выкладанні нацыянальнай гісторыі. Яны звярнулі ўвагу кіраўніцтва рэспублікі на тое, што калі Бацькаўшчына ступіла на шлях дзяржаўнага і нацыянальнага адраджэння, то само жыццё вымагае, каб шырокае і праўдзівае асвятленне нашае гісторыі стала палітыкай дзяржавы і ажыццяўлялася пры грунтоўнай падтрымцы ўрада Беларусі.

Наспела пільная патрэба перагляду ўсёй канцэпцыі гістарычнай адукацыі на Беларусі, якая ў сваёй аснове мусіць складацца з гісторыі Бацькаўшчыны і сусветнае гісторыі з беларускага гледзішча. Праграмы яе выкладання ў сярэдняй і вышэйшай школе, адпаведныя падручнікі павінны быць створаныя менавіта ў гэтым рэчышчы.

На падставе дзяржаўнага заказу беларускія гісторыкі, найперш з Інстытута гісторыі АН Беларусі і БДУ, змогуць у сціслыя тэрміны напісаць, а рэспубліканскія выдавецтвы — выпусціць падручнікі па гісторыі для сярэдняй школы і ВНУ. Урад таксама павінен зрабіць дзяржаўны заказ на стварэнне і выданне шматтомнай гісторыі Беларусі і выпуск масавымі тыражамі асветнай літаратуры, дзе папулярызавалася б наша слаўная і трагічная мінуўшчына.

Радыё, тэлебачанне, прэса — з дапамогай нацыянальна свядомых прафесійных гісторыкаў і дзеячаў культуры — павінны весці асветніцкую працу ў распаўсюджанні гістарычных ведаў, стварыўшы спецыяльныя праграмы і спыніўшы спробы антынацыянальнай, імперскай трактоўкі беларускай мінуўшчыны з боку былых партыйна-наменклатурных гісторыкаў і прапагандыстаў, што, на жаль, цяпер нярэдка здараецца.

Удзельнікі "круглага стала" палічылі неабходнаю найхутчэйшую рэалізацыю падпісанага лідэрамі СНД у Менску "Пагаднення аб вяртанні культурных і гістарычных каштоўнасцей дзяржавам іхняга паходжання".

Беларускія гісторыкі звярнуліся да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з прапановай аб наданні Дню абвяшчэння незалежнасці Беларусі — 25 сакавіка — статуса дзяржаўнага свята.

## Ад старога віленчука

Трэці год радыё Летува вяшчае на беларускай мове: па суботах гучаць перадачы культурна-асветныя, па чацвяргах — музычныя, штодзень — разнастайныя інфармацыі-карацелькі. Штотыдзень (па суботах) выходзяць беларускія тэлевыпускі. Да таго ж у педінстытуце створана кафедра беларускай мовы і літаратуры, якая дадаткова дае спецыяльнасць настаўніка малодшых класаў беларускіх школ. Дамоўлена, што палегчыцца паступленне моладзі в Летувы ў беларускія ВНУ. Пры віленскіх школах дзейнічаюць нядзельныя беларускія школкі.

Беларуская грамадскасць Вільні, як бачым, не сядзіць склаўшы рукі. І ТБК — Таварыства беларускай культуры і клуб "Сябрына" робяць захады дзеля адраджэння беларушчыны ў Летуве. Пра гэтае "на правах старога віленчука, які тут нарадзіўся і пражыў сем дзесяткаў гадоў", паведамляе Лявон Луцкевіч у газеце "Беларуская крыніца".



У Салігорску восем чалавек, сярод іх адна жанчына, з 30 сакавіка праводзяць галадоўку. Сваёй акцыяй яны дамагаюцца адстаўкі генеральнага дырэктара аб'яднання "Беларускалій", а таксама заключэння тарыфнага пагаднення.

Фота С. Брушко.

"ПАС" падрыхтавала Алена Агібалава, рэдактар аддзела па пытаннях палітыкі, тэл. 39-87-94.

Парламент: крок наперад, два — назад

## ТАМ – ВАЙНА

Варта прыгадаць, як прымалася на сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі Пастанова аб вывадзе з Закаўказзя і Малдовы ваеннаслужачых тэрміновай службы, прызваных у войска з тэрыторыі нашай рэспублікі. Найперш, да абмеркавання, назоў Пастановы гучаў туманна-неакрэслена "Аб праходжанні тэрміновай вайсковай службы




грамадзянамі Рэспублікі Беларусь за яе межамі". Як бачым, не вызначаны канкрэтныя рэгіёны былога Савецкага Саюза, скуль наша Айчына хоча вярнуць сваіх сыноў. Абстрактная фармулёўка "за яе межамі", зразумела, была змененая і канкрэтызавалася. Але... насцярожваюць расслабленае (дзякуй Богу!) мірным жыццём у рэспубліцы вока выразы няхай сабе нават праекта - чарнавіка прынятай Пастановы. У ім гаворка ідзе пра "вядзенне баявых дзеянняў, у ходзе якіх маюцца забітыя і параненыя" (!). Гэткі звілісты эўфемізм змякчае, прыхоўвае суровую праўду: там — вайна, там — смерць, боль і страх. Прычым гэта адбываецца за межамі нашай рэспублікі, у суверэнных дзяржавах, паміж суверэннымі дзяржавамі. І ў заблытаных канфліктах няхай напружваюць мазгі палітыкі, тыя ж кіраўнікі дзяржаў — удзельніц СНД, парламентарыі, а не бессэнсоўна гінуць "жывыя мішэні" сляпых агрэсіўных страсцей. Мы рызыкуем атрымаць "другі Афганістан" — мясцовага, суверэннага маштабу: грамадзяне Беларусі гінуць на тэрыторыі іншых незалежных дзяржаў без дай-прычыны, іх знаходжанне там не абумоўлена аніякімі двухці шматбаковымі пагадненнямі.

Пад час абмеркавання цяпер ужо фармальна дзеючай Пастановы прагучалі тры канчатковыя тэрміны адклікання беларусаў з так званых гарачых рэгіёнаў: 1-га красавіка, 20-га красавіка і 1-га траўня. Першы з пералічаных тэрмінаў Станіслаў Шушкевіч назваў "камсамольскім" — нерэальныя абавязацельствы, 1-га траўня ўсеагульна адхіленае як запозненая дата, і ўрэшце дэпутаты паразумеліся на 20-м красавіка. Засведчылі кансенсус Пастановай і...

Гэтыя радкі пішуцца 6 красавіка, калі атрымана інфармацыя, што вывад вайскоўцаў-беларусаў з Закаўказзя і Малдовы яшчэ (!) не распачаты. Камісія, пра мажлівае стварэнне якой паведамлялася ў мінулым нумары "ЧЗ", стварацца ўсё-такі не будзе. Адкліканне вырашылі ажыццяўляць апасродкавана, праз Генеральны штаб СНД пры садзейнічанні Галоўнакамандуючага Шапашнікава. Дарэчы, смеху вартыя "адважныя" дэпутацкія заклікі-прапановы (ізноў жа вяртаемся да Пастановы ВС РБ):"Галоўнаму камандаванню забяспечыць", "давесці да ведама Галоўнага камандавання пра неабходнасць забяспечыць вывад". З вялікага шуму, як кажуць у народзе, атрымаўся пшык. Між тым, 20 красавіка ўжо амаль на носе. Няўжо і гэту дату ды яшчэ ў такой адказнай справе дэпутаты ўласнаручна зробяць "камсамольскай"? Гаворка ж ідзе пра жыцці звыш тысячы беларусаў: каля 1 тысячы грамадзян Беларусі праходзяць тэрміновую вайсковую службу ў Закаўказзі і 179 чалавек — у Малдове.

А. Агібалава.

*Даведнік "ПАСа"*

## Пералік міжнародных арганізацый і іх органаў, членам якіх з'яўляецца Рэспубліка Беларусь

1. Арганізацыя Аб'яднаных Нацый (ААН): з 1945 г., Рэспубліка Беларусь — член-заснавальнік Арганізацыі:
- Эканамічны і Сацыяльны Савет (ЭКАСАС)— адзін з галоўных органаў ААН;
- Камітэт ААН па інфармацыі;
- Камітэт ААН па правах палесцінскага народа;
- Канферэнцыя ААН па гандлю і развіццю (ЮНКТАД);
- Савет па гандлю і развіццю ЮНКТАД.
- Еўрапейская эканамічная камісія ААН (ЕЭК ААН);
- Дзіцячы фонд ААН (ЮНІСЕФ).

2. Міжнародная арганізацыя працы (МАП): з 1954 г.
- Адміністрацыйны савет Міжнароднага Бюро працы;
- Камітэт МАП па металаапрацоўчай прамысловасці;
- Камітэт МАП па хімічнай прамысловасці;
- Камітэт МАП па лясной і дрэваапрацоўчай прамысловасці;
- Камітэт МАП па харчовай прамысловасці;
- Працоўная група па перагляду Адміністрацыйнага трыбунала МАП;

3. Арганізацыя Аб'яднаных Нацый па прамысловаму развіццю (ЮНІДО): з 1980 г. (з моманту пераўтварэння ЮНІДО ў спецыялізаваную ўстанову ААН; да 1980 года ЮНІДО была часткай ААН);
- Савет па прамысловаму развіццю ЮНІДО.

4. Арганізацыя Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры (ЮНЕСКО): з 1954 года:
- Выканаўчы савет ЮНЕСКО;
- Пенсіённы камітэт ЮНЕСКО.

5. Сусветная метэаралагічная арганізацыя (СМА): з 1948 г.

6. Сусветны паштовы саюз (СПС): з 1964 г.

7. Міжнароднае агенцтва па атамнай энергіі (МАГАТЭ): з 1956 г.

8. Сусветная арганізацыя аховы здароўя (СААЗ): з 1946 г. (у якасці неактыўнага члена; актыўнае членства плануецца аднавіць у 1992 г.).

9. Міжнародны саюз электрасувязі (МСЭ): з 1960 г.

10. Міжнароднае бюро выстаў (МБВ): з 1960 г.

11. Сусветная арганізацыя інтэлектуальнай уласнасці (САІУ): з 1967 г.

### Папраўка

У мінулым нумары "ЧЗ" у нататцы "Дзень Волі-92" (напрыканцы другога абзацу) замест "...аркестр выканаў Купалава..." трэба чытаць "...аркестр выканаў Краўцова..." і далей па тэксту.

# ЛЯ РАЗБІТАГА КАРЫТА

## ІНТЭЛЕКТ...




*Надараецца, што людзі выказваюць сваю незадаволенасць газетай, праграмай радыё, тэлебачання, пераносячы свае ацэнкі на ўсю рэдакцыю, хаця "заканфліктавалі" яны з аўтарам канкрэтнага матэрыялу. Гэтая спрадвечная супярэчлівасць паміж творчай асобай і масавай аўдыторыяй, якая вельмі абвастрылася ў сучасны момант, калі мы апынуліся ў палоне "незалежных" сродкаў інфармацыі. Адпаведна таму як непамерна вырас дыяпазон грамадскай інфармацыі: ад рэзкай крытыкі парламента і ўрада да адкрытай парнаграфіі і сексу — у сто разоў узрасла і асабістая адказнасць журналістаў за кожны выхад перад аўдыторыяй.*

Тут на ўвесь рост паўстае складаная праблема падрыхтоўкі кадраў, як аднаго з асноўных фактараў дзейнасці і развіцця сродкаў камунікацый у дэмакратычным працэсе. Гэта абумоўлена таксама тым, што рэзка ўзрасла патрэбнасць у журналістах. Дзесяткі новых выданняў, якія ўзніклі ў апошнія тры гады, запатрабавалі для сябе вельмі значны кадравы састаў. Журналістаў не хапае ў Мінску, а што гаварыць пра абласныя цэнтры, а тым больш раёны? Размеркаванне на факультэце журналістыкі стала фармальным, бо амаль усе выпускнікі мінулага года самастойна ўладкаваліся на працу, а тыя заяўкі, што былі прысланы з перыферыі, так і засталіся вакантнымі.

Не сакрэт, што ў многіх раённых рэдакцыях з года ў год працуюць тры-чатыры чалавекі. І добра яшчэ, калі гэта прафесіяналы, а то часта бывае, што журналістамі становяцца выпускнікі школ. Зразумела, што гэта вельмі адбіваецца на якасці газеты і змястоўнасці яе інфармацыі.

Успамінаецца сустрэча з рэдактарам быхаўскай раённай газеты вясной прайшоўшага года. Перад летам стварылася крызіснае становішча: ці ў адпачынак нікога не адпраўляй, ці закрывай газету. Давялося пасылаць на цэлы год на працу студэнтаў другога курса. А колькі такіх рэдакцый, асабліва ў Гомельскай і Магілёўскай абласцях! Ні Саюз журналістаў, ні Міністэрства інфармацыі дакладна не ведаюць гэтай праблемы і не займаюцца ёю.

А становішча катастрафічнае, калі не сказаць жахлівае! У гэтым навучальным годзе на факультэт журналістыкі з Гомельскай вобласці паступіў толькі адзін чалавек. Значыць, праз пяць год ніхто туды на працу не паедзе, таму што гэта студэнтка і яна хутчэй за ўсё выйдзе замуж у Мінску.

У сталіцы рэспублікі ідзе працэс канкурэнтнай перагрупоўкі журналісцкіх сіл. Перацягвае той, хто больш плаціць. Таму ў многіх рэдакцыях стварыліся прафесійныя пустоты. У час бульбяной верасянёўскай кампаніі ўспыхнулі канфлікты паміж факультэтам, газетай "Рэспубліка", тэлепраграмай "Крок" і многімі іншымі рэдакцыямі, якія амаль на ўрадавым узроўні заявілі свае правы на студэнтаў: калі яны паедуць на бульбу, то газеты не выйдуць і экран пагасне.

Доля праўды тут ёсць, бо большасць студэнтаў стацыянара, пачынаючы з другога курса, працуюць у газетах, на радыё і тэлебачанні, а потым і застаюцца ў Мінску. Факультэт больш як напалову стаў мінскім, і гэта тэндэнцыя развіваецца. Невялікі планавы прыём павышае каштоўнасць прахаднога бала, і, зразумела, гарадскія абітурыенты, выпеставаныя ў школе і адшліфаваныя рэпетытарамі, ідуць са значным адрывам ад асноўнай масы.

Думаю, што і журналісты, і масавая аўдыторыя ўжо адчулі негатыўныя вынікі працы гарадской журналістыкі. Газеты, тэле- і радыёпраграмы палітызаваны звыш усялякай меры, журналісты забыліся пра вытворчасць і сельскую гаспадарку. Зразумела, што на плошчу Незалежнасці ці на Сесію Вярхоўнага Савета можна трапіць без турбот і стракатаць адтуль "ад вашага парламенцкага карэспандэнта" без "трое суток шагать и трое суток не спать". А што адбываецца ў Мёрскім, Лельчыцкім ці Чачэрскім раёне — невядома. А сталічная прэса можа на ўсе лады асэнсоўваць праблему: чаму гэта глыбінка такая інертная ў адносінах да дэмакратычных праяў?

Затое ў нашым Мінску ды яшчэ ў Нью-Йорку выходзяць аж дзве вячэрнія газеты, а Савет Міністраў мае тры штодзённыя выданні. Аб іх статусе і грамадскай мэтазгоднасці размова асобная. Але колькі матэрыяльных сродкаў неабходна на іх выпуск, колькі задзейнічана журналістаў — гэта вядома.

Газеты растуць, як грыбы, вось-вось пачнуць узнікаць самастойныя радыё- і тэлестанцыі, а факультэт журналістыкі як быў, так і застаецца ля разбітага карыта. Колькі было абяцанак і пастаноў на самым высокім узроўні. Але ўсё гэта марнаванне часу і пустая гаварыльня аб суперсучасным абсталяванні і прыстасаваным памяшканні. Час ідзе, а студэнты і выкладчыкі як "кантаваліся" ў наргасаўскіх катухах, так і перабіваюцца там, як бегалі з Маскоўскай вуліцы на Свярдлова, так і вандруюць. Ужо роўна дзесяцігоддзе амаль 800 студэнтаў факультэта журналістыкі, у тым ліку і замежныя грамадзяне з 42 краін, не маюць свайго дома.

Час няўмольны. Ён нараджае новыя патрабаванні, якія абавязкова трэба рэалізоўваць, каб не адстаць ад імклівага прагрэсу. Нам таксама нельга таптацца на месцы. Ужо сёння неабходна арганізацыйная рэканструкцыя ўсяго працэсу падрыхтоўкі кадраў для сродкаў масавай інфармацыі. Пры тым гэта не касметычны рамонт існуючай структуры, а распрацоўка цэласнай сістэмы, убіраючай у сябе ўвесь комплекс кіравання і функцыяніравання прэсы. Ужо даўно просіцца ў рэестр спецыялізацый: тэхніка СМІ, камп'ютэрныя сістэмы, сцэнарыстыка, апeратарства, менеджмент, эканоміка, рэклама, міжнародная журналістыка і г.д. Адсутнасць такіх спецыялістаў у штатах рэдакцый значна тармозіць работу сродкаў інфармацыі.

Можна канкрэтна зазначыць, што сваёй рэкламы ў Беларусі да гэтага часу няма. Аб гэтым сведчыць параўнанне з расійскім і замежным друкам. Гэта дае магчымасць вызначыць, што наша рэкламная журналістыка знаходзіцца яшчэ ў падрыхтоўчым перыядзе. І ў вырашэнні гэтай справы недастаткова ўвесці толькі спецыялізацыю, неабходна стварыць кароткатэрміновыя курсы для журналістаў, якія займаюцца гэтай справай у рэдакцыях. А то цяпер ім трэба ехаць на вучобу ў Маскву і плаціць за гэта шалёныя грошы.

Не менш складаная справа з падрыхтоўкай журналістаў-міжнароднікаў. Рэспубліка змагаецца за свой суверэнітэт і самастойнасць, а за мяжой не мае свайго журналісцкага корпуса. Зразумела, што можна браць напракат суседзяў-калег і нават плаціць ім валютай. Але яны не змогуць зразумець і не захочуць адстойваць інтарэсы нашай Беларусі. Тут мы таксама змарнавалі час, а цяпер прыйдзецца плаціць за гэта двайную плату, каб нешта зрабіць.

Акрамя таго, неабходна ў самы бліжэйшы час разгарнуць працу па перападрыхтоўцы журналістаў усяго спектра складанага механізма перыёдыкі, радыё і тэлебачання. Бо калі гэта застанецца на кустарным узроўні існуючых структур Саюза журналістаў і Дзяржтэлерадыё, то і здабыткі будуць адпаведныя. Былая партыйная школа добра папрацавала, каб адвучыць журналістаў ад беларускай мовы, укараніла аднабаковы стыль палітычнага інфармавання.

Цяпер сорамна ад бязграматнага двухмоўя на радыё і тэлебачанні, шматлікіх скажэнняў беларускай мовы ў друку, нават нейкага дэманстрацыйнага адступлення ад літаратурнай нормы ў нацыянальных выданнях, а пра сацыяльна-палітычную арыентацыю і гаварыць нельга — яе проста не існуе.

Факультэт журналістыкі і універсітэт у цэлым зможа вырашыць гэтыя наспелыя праблемы пры адной умове — калі яму будзе прадастаўлена працоўная плошча. І рэальны шлях з бязвыхаднага становішча ёсць. Ва універсітэце пад кіраўніцтвам Міністэрства народнай адукацыі да нядаўняга часу функцыяніраваў Усесаюзны інстытут павышэння кваліфікацыі выкладчыкаў грамадскіх дысцыплін. Раней ехалі з усіх рэспублік, каб набрацца ведаў у Мінску. Цяпер факт існавання гэтай установы страціў свой грамадскі сэнс, і яна засталася без слухачоў. Хаця кіраўніцтва інстытута спрабуе пераарыентаваць сваю дзейнасць на перападрыхтоўку настаўнікаў школ і сярэдніх спецыяльных устаноў, рэктарат універсітэта справядліва мяркуе, што гэта лішняя структура, бо ў горадзе працуюць рэспубліканскі, абласны, гарадскі інстытуты ўдасканалення настаўнікаў, а таксама інстытут для выкладчыкаў прафесіянальных вучылішчаў.

На плошчах былога інстытута па праву можа размясціцца факультэт журналістыкі. Тым больш, што ў гэтым жа будынку ў інтэрнацкіх закутках размешчана замежнае аддзяленне журфака, друкарня, камп'ютэрныя класы, радыё- і фоталабараторыі і іншае высокакаштоўнае абсталяванне.

Але ж пытанне не вырашаецца. Ідзе бясконцая тузаніна паміж кіраўніцтвам. У адных не хапае цвёрдасці і канкрэтнасці, а другія прыдумляюць усялякія прымітыўныя аргументы. Цяпер высоўваецца "ідэя" стварыць у былым ІПК інстытут грамадскіх навук. Яна, зразумела, таксама пацерпіць крах. Цікава, што будзе прыдумана яшчэ? А час ідзе. Вось ужо зноў заканчваецца чарговы семестр. Сотні студэнтаў і выкладчыкаў факультэта журналістыкі пайшлі на новы круг свайго бяздомнага існавання.

Не хацелася б так абагульняць, але гэта зрабіла жыццё: калі вышэйшая школа рэспублікі застанецца ў абозе, то і Адраджэнне застанецца прыгожым міфам.

Алег Слука,
дэкан факультэта
журналістыкі, прафесар.

Алесь МАСАРЭНКА



# Дыялогі без назваў

* * *

— Заходжу ў магазін, а там — японскі касцюм у вітрыне... Мне аж горла перацяла: не веру, што ў нашай глухой вёсцы ды такія даброты ёсць... На здадзенае мяса тавар. А я ж якраз і здала вепра, дакумент маецца... Эх, паклікала свайго Пашку. Прыбег, сталі мерацъ. Апрануў ён пінжак — вузкі і ў стане, і ў плячах. Штаны — таксама не яго росту: калашынне шырокае, але такое ўжо куртатае, што Пашку недзе па калені... А як пашыты — заглядзенне. Калі б лёг ён, гэты касцюм, на Пашку, не паглядзела б на цану... А так — грошы і дакумент ёсць, а купіць — не купіш.

— Японцы — дробныя, і касцюмы на дробных шыюць... Нямецкі тваййму Пашку падыдзе. Іван мой заўсёды нямецкія бярэ — там і брушко ёсць куды схаваць, і ў плячах не цісне.

— Не раўняй дарослага мужчыну з падлеткам... У Івана тваіго, калі праўду сказаць, не брушко, а пуза — піўная бочка!.. Дзіва што, брухану такому цяжка знайсці абнову.

— Чапля ты цыбатая, хоць бы Івана не чапала... Далося табе яго пуза! Дзе ж там — пабыла пад ім, выблідка нарадзіла... А цяпер — ах-ах, мой Пашка... Ён жа — выплюнуты Іван, копія. Думаеш, я сляпая і дурная, нічога не бачу і не ведаю?.. Усё мне вядома, ды маўчала...

— Ну-ну, мялі языччком, мялі — мука будзе... Нібы на тваім Іване свет клінам сышоўся... Трэба ён мне, як і ты!

— Калі не трэба, дык і маўчы, не балабонь абы-то, не казырайся дужа. Іван мой — а што ж! — не зломак: і мяне не крыўдзіць, і цябе не ўпусціў, ашчасліві ў. Бугай — ён і ёсць бугай: яму абы карова... Ты во спытай: хто Пашку тваіму гадзіннік справіў? Спытай... А-а, зенкі вылупіла... Во-во, ведай і гэта, калі ўжо на тое пайшло. Мы даўно яго прывязчаем, як сына. Яшчэ калі ён стаў на Зіну нашу зазірацца. Я мусіла сказаць, што яны блізкія сродственнікі — брат і сястра... І ты ўжо, суседачка, не крыўдуй... Жыві ціха: усунь нос у кулачок і не чухайся лішне.

* * *

— Па-твойму, і я такая ж, як і сам? Памыляешся, не такая!

— Правільна. Ты асаблівая. Кадра-клас, са знакам якасці. Ха-ха-ха... І лытка — не брыдка, і кумпяк — не абы-як.

— Не юродствуй... Дзякуй за каву. Дабранач.

— Пачакай ты — жартаў не разумееш?.. У мяне, можа, самыя сур'ёзныя намеры... Давайка лепш сядзем радком ды пабалакаем ладком.

— Ладком з табою не атрымаецца... У табе ўжо нічога не засталося святога. Ды з тваіх вуснаў добрая прымаўка гучыць пахабна. Сур'ёзныя намеры... Воўк у авечай скуры — вось ты хто. І не праводзь — хопіць, наслухалася тваіх мондрых пасажаў. Дзякуй за навуку...

* * *

— Пачуй-ка, Лера, мне сёння падфарціла... Фарсовыя джынсы набыў.

— Прыгожа пашытыя? Ды яны кааператыўныя, падробка.

— Ты што?! Шмотка — люкс-прыма, фірмовая. Такой ні ў кога з нашых хлопцаў няма.

— Чаму ж не адзеў?

— Я хіба чокнуты ў будзень фірмовую шмотку насіць?.. Яна ў мяне для дыскатэк.

— Жмоціна ты, Валера. Каб не раскайваўся пасля, як мой дзед... Справіў сабе, казаў, хромавыя боты ў маладосці, фарсіў у іх толькі па вялікіх святах... Пярун запаліў хату, дома нікога не было, і ўсё пагінула ў агні з ботамі разам.

— Джынсы мае не згараць.

— Не абавязкова ім гарэць — моль папсуе...

— Загінаеш... Моль не точыць джут.

— То-точыць!.. Цяпер нават моль на цану глядзіць: гамае тое, што даражэй. Для сучаснай молі — гэты твой джут, можа, як для нас, людзей, паюсная ікра... Далікатэс!



* * *

— Гэта ж, як ты, зяцёк, падладзіўся столькі шыгалля ў бярозавік натрусіць?

— Праз ельнік ішоў, напрасткі.

— Праз ельнік? Чаго цябе так папёрла?! Там жа скрозь дзікоў поўна. Ляжывы іх там, вадапой блізка... Летась ляснік ішоў паўз балоцьвіну, ельнікам, дык малыя дзічкі, паласаценькія, абступілі яго, цмокаюць і торкаюцца ў ногі лычыкамі... Галодныя. Матку іхнюю, свінню, аказалася, нехта забіў. Ляснік чатырох дзічкоў злавіў і здаў на ферму.

— Хоць адзін з іх выжыў?

— Усе ацалелі, хвароба на іх, выраслі. Але ж і пражоры — свет не бачыў такіх. Мятуць усё пад мятлу. Дзе якая шчылінка — гнятуцца, каб адно выбрацца і шкоды нарабіць. Старшыня распарадзіўся — на адкорм паставілі. Паўгода кармілі, а яны, як былі сухарэбрымі, быдта ганчакі, такімі ж і засталіся. Адзін убытак калгасу... Спланавалі збыць іх у горад, у рэстаран. А там — крууцяць насамі: не маюць права прымаць ад калгаса дзічыну. Наш Міхайлавіч па натуры круты, настырны, як і ўсякі гаспадар, пячэцца за прыбытак. От і стаў дамагацца, каб усё ж здаць "кормнікаў" і ўзяць хоць якія грошы, дык яго за гэта ў газеце прапясочылі, загадалі выпусціць дзікоў на волю. І што ж — затарабанілі іх ажно ў Чортаў Клін, за трыдзевяць зямель. Сагналі з прычэпа — жывіце, чэрці лычатыя, радуйцеся волі. Дзе там — павечару ўсе чацвёра, цугам, назад на ферму прыдыбчылі. Ім не трэба воля — на гатовым зручней.

— А браканьера так і не выкрылі?

— Яго і не трэба выкрываць — побач з намі жыве: Тупчык. Душыць зверыну, б'е потайкам — і ўсё шыта-крыта.



— І што ж міліцыя?

— Двойчы ў яго вобыск рабілі. Але ні ружжа, ні ласяціны-парасяціны не знайшлі... Тупчыка так проста не ўзяць, хітры. У яго і без гэтага ўвесь двор застаўлены клеткамі з нутрыямі, шкуркі сам вырабляе і прадае, грошай хапае, дык, можа, і ў міліцыі каго падкупіў. Цяпер яна такая міліцыя... Гэты пройда на ўсё здатны. Бачыла, ты з ім нейкую перамову вёў, дык знай: ён да ўсяго шчэ і круталсоў, скажа адно, а зробіць другое...

— Паабяцаў мне дзве белыя шкуркі на каўнер.

— Не смей!.. Без яго шкурак абыдземся... Ты пабыў — і паехаў, а мне тут, старой-нямоглай, з бандзюком гэтым жыць побач. Яшчэ не ўладзіш, не дасі столькі, колькі заломіць, дык пастыляцца будзе, помсціць... Не было яго ў нас — клопату не мелі. Пустадомак, прыцёгся з суседняй вёскі. Матка памерла, ён хату прадаў, грошы зажыліў... Жонка і ўспыліла:"Хочаш дзяліцца — жыві, дольнік, адзін, несямейна!" Выперла з дому. Колькі гадоў бадзяўся недзе па свеце, калясіў, пакуль не прыстаў да Моці ў прымы. І во — на бацькаву сцежку ўзбіўся. Той, казалі, паладзіўся быў нішчыць баброў, ласёў, казуль — раскашаваў на дармаўшчыне... Ненарокам ранены лось загнаў яму капыта ў жывот. Знайшлі нежывога побач з адубелым ласём...І сын, не тут кажучы, не зносіць галавы — дастукаецца свайго: чортава семя па-дурному на звод ідзе... Наесца і ён дармаўшчыны. Нутры яму трэба — смурод развёў на ўсю вёску, продыху няма...

* * *

— Бывае, чалавек здалёку цягне дахаты крывое, сукастае палена, хоць амаль побач, за ўласным падворкам, шуміць гонкі бор... Нешта



падобнае і ты, сын, адчыбучыў: жонку са свету прывёз, быццам у нас тут сваіх дзяўчат не было.

— Як я зразумеў — Паліна не прыглянулася табе?.. Дзякуй, бацька, за шчырасць.

— Я хіба няпраўду сказаў? У нас тут, сынок, якую дзеўку ні вазьмі, і ніводная ні ў чым не ўступіць гэтай тваёй Паліне... Прывязное, са свету,— кот у мяшку. Паспяшаўся... Цябе ж Кастуся чакала.

— Кастуся?.. Я напісаў ёй — не адказала.

— А ты ў другі раз напісаў бы... Іх род, знаеш, горды.

— Во-во, яны ўсе гордыя, з ускінутай галавой ходзяць, а мы — слімакі, не ходзім — поўзаем... Не ўжо, хопіць таго, што Кастусіна маці табе адмовіла.

— Ці не матка такое ў вушы ўвяла?

— Хто ні ўвёў, абы гэта праўда была... Дзеці, як я разумею, не павінны паўтараць памылак сваіх бацькоў.

— Разумна, ды не саўсім... Вот я з тваёй маткай разам раслі, разам старэем і горбімся, усё адзін пра аднаго ведаем. Ну і што ў гэтым табе не падабаецца?.. Кастуся таксама, лічы, у нас на вачах вырасла, як і ты. Для нас яна не загадкатаямніца. А што мы пра тваю Паліну-маліну ведаем?

— Ну, бацька, здзівіў... Усё, што трэба пра яе ведаць, я добра ведаю. Разумееш? Я!

— Не занасіся, сын, на дыбы рана ўстаеш. Лепей паслухай-ка: паштарка сказала, што Паліна тэлеграму адбіла — уляпётвае да мамачкі сваёй... То-та ўвесь гэты час чамадорылася: усё ёй неўпанараў, на што ні гляне — нос так і верне ўбок. Сырадой не п'е, дранікі не есць... Калі ўжо такая паненка вялікая, чысцюля, то няхай бы сама бульбы наабірала, нацёрла на тарцы і дранікаў напякла. Ніхто ж ёй не забараняў... Не-е, сын, геморніца яна ў цябе, чыстаплюйка. Даруй, канечне, за грубасць — сарвалася зніцяйкі з языка... І ўсё ж — ты мне скажаш, можа, толкам: і сам, няйнакш, з ёй адбываеш?

— Не будзем, тата, аб гэтым...

— А па-мойму, каб не быць слімаком, як ты сказаў, і не поўзаць, а горда хвдзіць, ты не павінен ехаць — няхай адна коціць.

— Не згушчай фарбы, кажу.

— Не згушчаў бы, калі б не гэта яе тэлеграма.

— Не бяры да галавы, супакойся.

— Рад бы супакоіцца, ды не магу...

— Кашу заварыла Кастуся — перастрэла на вуліцы Паліну і такога навыдумляла пра мяне...

— Кастуся?.. Ну, пераканаўся? Яна ж, калі ты ў войску быў, пры сустрэчы заўсёды не забывала пацікавіцца, як служыш, што нам пішаш. Аднойчы зайшла і фоткі твае глядзела... Кастуся спадзявалася на цябе, чакала...

— Цяпер не будзе спадзявацца... Я пагаварыў з ёй з вока на вока... Ты чуў такое? Напляла, самадумка, усякай лухты, сказала Паліне, што нібыта я да прызыву з ёй жыў употайкі — як з жонкай...

— І дарма не жыў... Ужо і ўнукі былі б... Разінька, Кастусю ўпусціў — такая дзеўка!

* * *

— Раней, помню, адной сотняй цэлы месяц жывеш. А цяпер за чырвонца, выходзіць, ужо й гарэлкі не ўзяць... Абясцэнілася жытка, скруцілі нас камунякі па руках і нагах. Яны жывуць — у кааператывы ды ва ўсякія там біржы паўплішчваліся, арудуюць, а нам — сама што ісці завалы ў крамах збіваць ды вокны трушчыць.

— О, не-е... Гэтыя, як ты кажаш, камунякі якраз, можа, знарок будзяць наш гнеў, каб пасля палову перастраляць, а тых, хто ацалее, павязаць ды зноў імі кутузкі запоўніць... З таго, пэўна, і чыніцца паўсюдны разрух, няйнакш пляцецца для нас нейкае больш мудрэйшае сіло.






# СТАРЫ БАЛЬШАК

**Музыка і словы Віктара Шалкевіча**

Кіньце, хлопцы, забаўкі,
Я скажу вам так:
Пойдземце лепш з вечара
На стары бальшак.
Так спрадвеку робіцца —
у час бяды вялікае
На бальшак выходзілі
Прадзеды, дзяды,
А пры самай поўначы
Прыходзіла помачы.
Здэцца мне, ізноў пад нагамі
Бальшак дрыгаціць.
Рвуцца і хрыпяць стомленыя коні —
То імчыць вялікая княская Пагоня.
Рвуцца і хрыпяць стомленыя коні —
То імчыць шалёная княская Пагоня.
Крылы нам падрэзалі,
Душы пасяклі,
Бацькаўшчыну нашую
Сабакам аддалі.
Як маглі, мы біліся
За яе, гаротную,
За яе, пакутніцу,
Лілі чужынцаў кроў.
Баранілі веру мы,
Зямельку свабодную,
Здэцца мне, што мацней дрыжыць
Бальшак стары ізноў.
Чутна, як звіняць косы і сякеры,
Ідуць у апошні бой хлопцы-касінеры,
А наперадзе ўсіх — Кастусь Каліноўскі.
Па лясах, па далах чутны адгалоскі. } 2 разы
А калі спатрэбіцца
Бацькаўшчыне зноў
Сэрцы і далоні
Усіх яе сыноў,
Плюнем на забавы мы,
Плюнем на гарэлку мы,
Дасць мо святы Божа,
Паходзім шчэ ў жывых,
Пацалуем матухнаў,
Абдымемся з дзеўкамі
І на шлях стары скіруем
Коней вараных.
Эх, конь, ты мой конь, чатыры падковы.
Ты вядзі, вядзі ў бой нас, бацька Каліноўскі.
Эх, конь вараны... } 2 разы.



Шырокая публіка ўпершыню пачула пра гэтага беларускага рок-барда пад час фестывалю "Басовішча-90" (Польшча). Пазней ягоныя песні радыёхвалі разносілі па ўсім свеце.

Нарадзіўся ў Поразаве, што на Гродзеншчыне, жыве і працуе ў Гародні.

Стылістычна ягоную творчасць азначаюць тэрмінам БББ (беларускі брудны блюз). Тут ёсць месца і сур'ёзным разважанням, і гумару, грунтоўная пастаноўка пытання ідзе поруч з іроніяй і самаіроніяй.

Больш падрабязна з Віктарам Шалкевічам можна пазнаёміцца ў нашай публікацыі "Мой прынцып – самаіронія" ("ЧЗ" № 9 ад 28.II.1992).

МЕНЕДЖМЕНТ: 230005, Гародня, вул. Курчатава, 32. Віктар Шалкевіч. Тэл. 8-0152-44-64-26.

Фота С. ХАРУЖЫКА.

*Гіт-парад*

# ЛЕГЕНДЫ НЕ ПАМІРАЮЦЬ

**Усё большую колькасць лістоў выклікае сумесная ініцыятыва беларускай рэдакцыі радыё "Свабода" (Мюнхен) і беларускага маладзёжнага штотыднёвіка "Чырвоная змена" (Менск) – беларускі гіт-парад. На падставе аналізу пошты да цікавых высноваў можа прыйсці наша ўласная ледзь не карпарацыя "МММ" (Muenchen-Mlensk-Musik). А галоўная выснова: жыве беларуская попса-рокса – жыве Беларусь!**



●

Лісты, трэба сказаць, самыя розныя. Ад лаканічных захапленняў метал-фанаў накшталт тых, што выказаў наш слухачытач з Кобрына Валерый Вяргейчык ("Даеш метал! "Дзіда" — гэта сурова, але справядліва. Поўны наперад!") да падрабязных разважанняў тых, хто імкнецца да асэнсаванага слухання, як, напрыклад, Генадзь Чарняцоў з г.Ярцава на Смаленшчыне: "Я не надта даўно ведаю беларускі рок, бо адкрыў яго толькі з вашых мюнхенска-менскіх музпарадаў. Беларуская радыёпраграма ў эфіры прывабіла ўвагу чыста выпадкова, калі круціў прыёмнік і пачуў цудоўную музыку ў стылі авангарднай хвалі. Аказваецца, гэта быў беларускі "Уліс". Дзіўна, чаму гэтага ніколі не было чуваць на Цэнтральным тэлебачанні, на былым Усесаюзным радыё, увогуле нідзе. Толькі днямі я напароўся ў краме на яшчэ адно адкрыццё — дыск беларускай групы "Мроя". Гэта зноў жа зроблена на добрым, я б сказаў, заходнім узроўні. Вельмі спадабалася кампазіцыя "Я — рок-музыкант".

Дарэчы, фаны "Мроі" апошнім часам прыкметна актывізаваліся. Відаць, алею ў агонь падліў ліст гамяльчанкі Літы, які мы цытавалі ў мінулым выпуску гіт-парада. Дый сапраўды, як гэта так: адзін з лідэраў беларускага рока, які актыўна дзейнічае і сёння, аказаўся з-за гэтай самай актыўнасці ў хвасце табліцы (фаны разгубіліся ў выбары сапраўднага адзінага супер-гіта). Сёння таксама галасы разбегліся ў даволі шырокім спектры, але твор "Я — рок-музыкант" здолеў ускочыць адразу на трэцюю пазіцыю.

Радуе, што гіт-парад выяўляе не толькі халодных рацыяналістаў у адборы лепшых кампазіцый, але і адданых, гарачых заўзятараў беларускай папулярнай музыкі, якія здольныя рызыкнуць удзельнічаць нават у безнадзейнай справе і... дасягнуць поспеху. Вось адзін з падобных лістоў, які мы атрымалі ад Яўгена Зайкоўскага з Оршы: "Бардаў у вашым гіт-парадзе няшмат, і, відаць, галасаваць за іх — няўдзячны занятак для тых, хто толькі хацеў бы адгадаць раскладку месцаў на чарговым этапе. Але я хацеў бы іншага — каб побач з прызнанымі зоркамі прагучаў выканаўца, некаторыя песні якога друкавала "Чырвонка", а жыўцом даводзілася чуць яго толькі ў перадачах беларускай "Свабоды". Гэта Алег Паўлёнак з песняй "Наша зямля". За дакладнасць назвы не ручаюся, проста ёсць там гэтыя словы, якія спявае чысты, меладычны голас".

Вось так, на перапляценні розных думак, розных прыхільнасцей, розных жаданняў складалася чарговая (№ 6) табліца гіт-парада "ЧЗ — Liberty", якую мы і прапануем вашай увазе:

**1. "Шляхі ў ноч"**
(І.Варашкевіч — Ф.Кашкурэвіч). "Бонда".

**2. "Ліхадзеям на зло"**
("Грунвальд" — А.Дэбіш). "Грунвальд".

**3. "Я – рок музыкант"**
(муз. і сл. калектыву). "Мроя".

**4. "Бюракрату з Дома ўраду"**
(муз. і сл. В. Цярэшчанкі). Вальжына Цярэшчанка.

**5. "Гаспадыня ранішняй зоркі"**
(муз. і сл. А .Камоцкага). Алесь Камоцкі.

**6. "Поскудзь"**
("Дзіда" — В.Воліс, Л.Сом). "Дзіда".

**7. "Гэй, Нью-Йорк"**
(А.Хомік — Я.Максімюк). "Альбаросіка".

**8. "Ты ж мяне не слухаў"**
(беларускі фальклор). "Грамада".

**9. "Лязо"**
(В.Корань — Ф.Аксёнцаў). "Уліс".

**10. "Наша зямля"**
(муз. і сл. А.Паўлёнка). Алег Паўлёнак.

Чым асабліва радуе гіт-парад, дык гэта тым, што ў ім выяўляецца неўміручасць легенд беларускага рока. Вось і зараз, як жывая, перад намі "Бонда" — лідэр шостага этапа гіт-парада "ЧЗ — Liberty". І менавіта дзякуючы гіт-параду мы зноў маглі пачуць "Бонду" ледзь не жыўём (на кароткіх хвалях "Свабоды" нашая табліца была агучана 29 сакавіка г.г.). Хто не паспеў пачуць, не засмучайцеся: гіт-парады "ЧЗ —Liberty" выходзяць у эфір кожную апошнюю нядзелю месяца. З чаго будзе складвацца наступны выпуск — залежыць ад вас: пішыце на паштоўцы імёны трох сваіх беларускіх улюбёнцаў і дасылайце нам у штотыднёвік (220041, Менск, праспект Францішка Скарыны, 77, "Чырвоная змена") або на адрас радыё ("Liberty", postfach 221425, D-8000, Muenchen, Germany). Салют!

Вінцук ГУНЕНКА.
Фота Ю. СМАЛЯ.

*Спяваем па—беларуску*

# КАЛІ ГЛЯДЖУ

раманс

**Музыка і вершы Сяргея Новіка-Пяюна**




*Прысьвячаю*
*Оленьцы Зубавічанцы*

Калі гляджу на неба сінь –
Прыпамінаю твае вочы.
Калі гляджу на твае вочы –
Прыпамінаю неба сінь.

Зірну на ластаўкі крыло –
Прыпамінаю твае бровы.
Калі зірну на твае бровы –
Прыпомню ластаўкі крыло.

Угледжу ледзь караляў шнур
Прыпамінаю твае вусны.
Калі ўбачу твае вусны –
Прыпомню ўміг караляў шнур.

Калі гляджу на ружы цьвет –
Прыпамінаю твае шчочкі.
Калі гляджу на твае шчочкі –
Прыпамінаю ружы цьвет.

Пачую трэлі салаўя –
Прыпамінаю твае словы.
Пачую ледзь я твае словы –
Успомню трэлі салаўя.

Другой такой ня знойдзеш, не!
Лепш за цябе няма на сьвеце!
Бо толькі ты адна на сьвеце
Каханьне й шчасьце дорыш мне.

*Кнігарня "НА"*

Ад спадара Андрэвуша Шчуры, удзельніка леташняга фэсту "Rock-summer" у Таліне, мы атрымалі выдатнае каляровае выданне, якое выйшла ў свет спецыяльна да вышэйзгаданага фэсту.

Пасля кароткага агляду ўдзельнікаў папярэдніх "Rock-summer 88" і "... 89" (а гэта гурты з Шатландыі, Вялікабрытаніі, Швецыі, Фінляндыі, Італіі, ЗША, Чэхаславаччыны, Ірландыі... ну і, пэўна, самой Эстоніі) менеджэр фэсту Юрый Макараў па-англійску запрашае: "Come and join the party!".

Пераважную колькасць старонак кніжачкі займаюць візітныя карткі новых ўдзельнікаў: разам з фотаздымкам, пералікам складу і двухмоўным (па-эстонску і зноў жа па-ангельску) тэкстам прастаўленая дата выступлення гурта на Спеўным полі Эстоніі, якое само, дарэчы, трапіла ў кнігу рэкордаў Гінеса па колькасці ўдзельнікаў сваіх спеўных форумаў. "Rock-summer 91" — гэта "Kaoma" з Бразіліі, "New moon" з Латвіі, "Kotobuki" з Японіі, "Jethro tull" з Вялікабрытаніі, "Jennifer Rush" з ЗША, "Sexappeal" з Угоршчыны, што вельмі прыемна — наш "Уліс", прадстаўнікі Канады, Даніі, Летувы, Фінляндыі, Швецыі, Эстоніі. Пададзеныя некалькі падрабязных схем — гатэляў і рэстаранаў Таліна ды сервісных службаў побач са Спеўным полем.

Эстонцы — народ самавіты і разважны: у склад аргкамітэта ўваходзілі і прэсавы шэф, і лекары, і гіды, дызайнеры розных кшталтаў, вядучыя, адказныя за прадуктовае, юрыдычнае, жыллёвае забеспячэнне. Застаецца дадаць, што ў ліку найбольш вядомых фундатараў фэсту, якія забяспечылі такі ўзровень імпрэзы,— "Marlboro music" і "Mazda care".

"Мы сустрэнемся зноў на "Рок леце 92!"— кажуць арганізатары.

Было б файна!

Ігар МІХНО.



*Фанатэка*



### "РОКІС"
### "НАРОДЖАНЫ ТУТ"
### Скаўт-студыя, 1991

Тэмп, з якім гэты гурт увайшоў у нашае жыццё, быў проста захапляючы: яго літаральна адразу заўважыла прэса, радыё, тэлебачанне, нават філармонія. Першыя запісы ("Аксамітная вада", "Спадыня ноч", "Як у сне"), якія не ўвайшлі ў анатуемы альбом, сталі супер-гітамі ў спісах папулярнасці і на "Беларускай маладзёжнай", і на радыё "Свабода". Потым вакаліста Ігара Вайцяхоўскага замяніў вядомы ў рэспубліцы рок-спявак Ігар Варашкевіч. Былы ўдзельнік гурта "Бонда", ён прынёс у калектыў шмат новых ідэй – і "Рокіс" атрымаў новы творчы імпульс.

Цяжка вызначыць адным тэрмінам музычны стыль, у якім працуе "Рокіс", але ясна адно – гэта рок вышэйшай пробы. І гэта менавіта беларускі рок.

Большасць кампазіцый з анатуемага альбома гурт узяў з ранейшай праграмы, істотна перапрацаваўшы іх ("Дзесьці там", "Забыты свет" і загалоўны твор). Некаторыя творы з'явіліся ў альбоме толькі з прыходам Ігара Варашкевіча (напрыклад, "Пагоня"). Дарэчы, сваё асэнсаванне багдановічаўскага верша "Пагоня" Ігар выношваў даўно, а першыя накіды будучай кампазіцыі з'явіліся тады, калі ў масах яшчэ жыла надзея на адраджэнне гурта "Бонда".

Як бы мы ні хацелі гэтага адраджэння, але радуе, што з "Рокіса" не атрымалася другой "Бонды". Гэта б была ўжо толькі копія. А новаму гурту ўдалося адшукаць , вызначыць свае адметныя ўласцівасці.

Паводле кампазіцыі "Запомні яго такім" рэжысёр Сяргей Шынкарэнка зняў відэакліп, які хоць і не назавеш экстра-класам сусветнага шоу-бізнесу, але ён мог бы цудоўна ўпрыгожыць і разнастаіць телеэфір не толькі БТ.

Магчыма, назва "Рокіс" больш не ўсплыве нідзе па-за гэтым альбомам, бо гурт удасканальвае свой стыль, часам адбываюцца і змены асабовага складу і, натуральна, паўстане перад праблемай выбару аптымальнага іміджу, куды ўваходзіць і мова, і знешні выгляд, і назва. Але песням, запісаным тут, можна сказаць з упэўненасцю, наканавана неаднадзённае жыццё.

Набыткам калектыву з'яўляецца і ягоны ўласны аўтар тэкстаў – Зміцер Лукашук. Напэўна, вы нідзе ў паэтычных падборках яшчэ не сустракалі гэтага імя. Магчыма, і не сустрэнеце. Бо гэта – рок-паэт, вершы якога можна пачуць у рок-музыцы. Менавіта там адчуваюцца іхнія рытмы, рыфмы, думкі. І менавіта там яны набываюць ззянне формы, якога ніколі не ўбачыць літаратурны рэдактар, што будзе чытаць іх толькі з паперы.

У тэкстах няма публіцыстычнасці, але яны кранаюць болем надзённасці. Яны не падпарадкаваныя стандартным паэтычным памерам, але цудоўна кладуцца на музыку.



### "БАЙМ"
### "ГОЛЫЯ СКАЛЫ"
### Польске награня, 1988

Што ні новы альбом, дык на іншай фірме грамзапісу... Відаць, не гэткі ўжо шчаслівы лёс быў у гэтай польскай рок-зоркі. Праўда, што ўжо казаць беларускім зоркам, якім з-пад татальнага прыгнёту колішняй усесаюзнай манаполіі "Мелодыя" дапамагалі вылузвацца тыя ж "Польске награня" (рок-гурт "Уліс"), амерыканская "Электранова-Продакшнз" (спявак Лявон Барткевіч), чэхаславацкая "Супрафон" (спявак Міхась Забэйда-Суміцкі) і г.д. Але – былі праблемы і ў "Байма", хоць іх цяжка параўнаць з нашымі праблемамі.

Гурт усё ж мае рэгулярныя лонгплэі, тэледыскі, канцэрты (як на радзіме, гэтак і за мяжой). Ідэя альбома "Голыя скалы", як выказаўся мастацкі кіраўнік гурта Анджэй Петрась у часопісе "Na przelaj", нарадзілася пад час амерыканскага турнэ, калі прыйшлі новыя стылістычныя, тэматычныя рашэнні. Вірлівыя рытмы змяніліся развагамі, пяшчотай, хоць у мелодыястваральнай аснове, як і раней, дамінуе напружанасць, інтрыгуючая нотка.

Часам здаецца, што музыка ледзь не засынае ў паветры (напрыклад, у кампазіцыі "Возера шчасця"), але якую дынаміку набывае тая ж рэч ў відэакліпе. Галоўным чынам гэта адбываецца дзякуючы глыбокай унутранай драматургіі той музыкі, якою апанаваў "Байм".

Праўда, і загалоўная кампазіцыя альбома, дзе захаваліся адкрытыя эмоцыі, слухаецца не менш прывабна.

Усе тэксты для гэтага альбома пісала вакалістка гурта Беата Козідрак. Музыка належыць аўтарству іншых удзельнікаў калектыву: мастацкаму кіраўніку Анджэю Петрасу ("Голыя скалы", "Каханне бессмяротнае", "Я"), клавішніку Канстантаму Ёр'ядзісу ("Мужчынскі свет", "Агонь і лёд"), лідэр-гітарысту Гжэгажу Плесе ("Святы горад"), бубначу Алану Бастэру ("Можам рабіць што заўгодна").

З удзельнікаў гурта застаўся не названым толькі бас-гітарыст Франц Дрэд Гюнтэр.

Чытач, мабыць, прыкмеціў інтэрнацыянальны склад музыкаў: тут ёсць і грэчаскае прозвішча, і нямецкае, і ангельскае. Трэба зазначыць, што ўсё гэта – польскія грэкі, польскія немцы, польскія брытанцы. І гэта не з'яўляецца дзіўным нават у Польшчы. Хіба толькі ў нас, дзе ўсіх імкнуліся зрабіць проста савецкімі, і нават у сябе на радзіме Жменька станавіўся Жмяньковым, а Мухаметдзін – Мухаметдзінавым.

Што да мастацкай аздобы альбома, дык вельмі радуе, што графік Марыя Ігнатовіч знайшла месца ў ёй для фірменнага лагатыпа гурта.



### "ПІНК ФЛОЙД"
### "РЭЛІКСЫ"
### Гарвэст, 1971

Увесь свет ведае "Пінк Флойд", пачынаючы ад "Зваротнага боку Месяца" (1973). Потым былі "Шкода, што цябе тут няма" (1975), "Жывёліны" (1977), "Мур" (1979), "Апошні надрэз" (1983), менш вядомыя "Цудоўны Пэр" (1973), "Першая адзінаццатка" (1977), "Калекцыя вялікіх танцаў" (1981), "Часовыя страты розуму" (1987). Большасць з гэтых кружэлак анатаваліся раней у "Нотным аркушы". Звярталіся мы і да альбомаў, што склалі, гэтак мовячы, перадгісторыю калектыву. Але ж "Пінк Флойд" – адзінка такога маштабу, што кожныя нюансы ейнай біяграфіі будуць выклікаць усё новую і новую цікавасць.

Вось, напрыклад, альбом "Рэліксы". Практычна, гэтая кружэлка не задумвалася як альбом. Яна складзена з рэдкіх запісаў калектыву, зробленых у розныя гады (1967-1969). Выдадзеная ў серыі "Бізараўская калекцыя рэдкасцей і кур'ёзаў".

І хоць некаторыя творы можна знайсці і на іншых кружэлках (скажам, "Cirrus minor" і "The Nile song" паходзяць з гукавой дарожкі да фільма "More", рэпертуар гэтага дыска не дазваляе лічыць яго звычайнай зборкай, бо мае пераважна арыгінальны і непаўторны характар. І калі ў кінамузыцы яшчэ згадваецца ранейшае пінк-флойдаўскае эксперыментатарства (складаная структура кампазіцыі, наяўнасць канкрэтных гукаў), дык цудоўным блюзавым супер-гітам выглядае кампазіцыя Сіда Барэта "Bike", запісаная 21 мая 1967 года. Крыху раней, 27 лютага 1967 года, быў запісаны яшчэ адзін ягоны гіт "Arnold Layne".

Пасля сыходу Сіда Барэта гурт не страціў свайго адчування гіта (узяць хоць бы твор Уотэрса-Райта-Мэйсана-Гілмара "Асцярожна, гэта ж сякера, Яўген", запісаны 4 лістапада 1968 года), хоць само па сабе імкненне выключна да гітавасці не стала дамінантай у творчасці гурта, яму не саступіла разважлівасць, ёмістасць, эмацыянальная глыбіня і вобразнасць музыкі ("Сон Юліі", "Запамінальны дзень", "Мальберт").

Прадзюсерам альбома стаў Норман Сміт, але дзве кампазіцыі з фільма "More" гурт прадзюсіраваў сам разам з Джо Бойдам. Мастацкая аздоба вокладкі належыць Дэйвіду Коўлмэну.

## 12 красавіка — Дзень Войск ППА

# "Спецкамандзіроўка" на вайну

*Перамены, якія адбыліся за апошнія гады ва ўнутраным і знешнім жыцці нашай краіны, далі, нарэшце, магчымасць называць рэчы сваімі імёнамі. В'етнам і Карэя, Куба і Ангола, Сірыя і Афганістан — вось толькі некаторыя кропкі, дзе савецкія ваеннаслужачыя аказвалі інтэрнацыянальную дапамогу.*

*Сёння госць нашай рэдакцыі — падпалкоўнік запасу Юрый Іванавіч ВЕРАСАЎ, якому ад час службы ў арміі прыйшлося двойчы выконваць інтэрнацыянальны абавязак.*

**— Юрый Іванавіч, калі ласка, раскажыце пра сябе. Як сталі ваенным?**

— Нарадзіўся я 29 жніўня 1936 года ў Ленінградзе. У сям'і ваенных раней не было, бацька працаваў прарабам на будоўлі. У гады вайны сям'ю эвакуіравалі з акружанага немцамі горада ў Падмаскоўе, дзе і прайшлі мае дзіцячыя гады. У 1952 годзе пасля заканчэння сямі класаў сярэдняй школы паступіў у Маскоўскае артылерыйскае падрыхтоўчае вучылішча. Былі ў свой час такія вучэбныя ўстановы (па тыпу суворыўскіх). Дарэчы, мы і форму насілі такую ж, як яны, і вучэбны працэс быў арганізаваны аналагічна: акрамя агульнаадукацыйных, актыўна вывучалі ваенныя прадметы, баявую тэхніку. Праз тры гады мне было прадастаўлена права паступіць у вышэйшае ваеннае вучылішча. Здаўшы ўступныя экзамены, стаў курсантам Растоўскага вышэйшага артылерыйскага вучылішча. Праз паўтара года наш факультэт перавялі ў МВІЗРВ ППА, з якога я выпусціўся ў 1959 годзе. Затым восем год служыў у зенітна-ракетным дывізёне ў Маскоўскай акрузе ППА. Зараз пра гэта ўжо можна расказаць — ахоўваў славуты аб'ект "Арзамас-16", дзе тады працаваў акадэмік А.Д.Сахараў. Прайшоў пасады ад начальніка выдатнай батарэі да старэйшага інжынера брыгады.

**— А як жа Вы аказаліся ў В'етнаме?**

— Было гэта ў 1970 годзе. Прапанавалі мне паехаць у спецкамандзіроўку ў Індыю — неадкладна спатрэбіўся добры "баявік", які ведае тэхніку. Карацей, аформілі ўсе дакументы, прыязджаю на размову ў Маскву. А ў вышэйстаячым штабе кадравік і гаворыць: "Ну скажы, чаму табе ехаць у гэту Індыю на нейкія паўгода? Давай афармім цябе лепш у В'етнам, на пасаду падпалкоўніка". Я крыху падумаў і згадзіўся. Так я, капітан, аказаўся саветнікам галоўнага інжынернага зенітна-ракетнага палка, які ахоўваў порт Хайфон. Праз яго тады ішлі водным шляхам усе грузы з Савецкага Саюза пасля таго, як вельмі ўскладніліся нашы адносіны з суседнім Кітаем. Ведаеце, былі нават такія выпадкі, калі ў дарозе з чыгуначных платформ бясследна зніклі кабіны РЛС і іншая тэхніка...

Савецкія караблі, якія прыбывалі ў порт, сустракала і моцна бамбіла амерыканская авіяцыя. Ахову і абарону караблёў даручылі палку, да якога я быў прыкамандзіраваны на некаторы час.

**— Скажыце, калі можна, а, акрамя Вас, былі яшчэ савецкія спецыялісты?**

— Так. У кожнай часці знаходзіліся саветнікі камандзіра і галоўнага інжынера і дзесяць спецыялістаў па розных сістэмах эксплуатуемага комплексу. Непасрэдныя баявыя дзеянні і абслугоўванне тэхнікі вялі самі в'етнамскія спецыялісты.

**— Зараз шмат гавораць аб тым, што мы пастаўлялі В'етнаму састарэлую баявую тэхніку, на якой яны і не маглі лепш ваяваць. Ці так гэта на самай справе?**

— Скажу сумленна. Савецкі Саюз у 70-я гады пастаўляў у СРВ добрыя, надзейныя зенітна-ракетныя комплексы. Уся бяда заключалася ў слабасці в'етнамскай сістэмы ППА. Іншы раз справа даходзіла нават да кур'ёзаў. Напрыклад, збіраюцца амерыканцы бамбіць аб'яднаны КП і напярэдадні раскідваюць лістоўкі з самалёта з просьбай да савецкіх спецыялістаў: у такі вось час... пакіньце баявыя парадкі, каб пазбегнуць магчымых ахвяр! І пакідалі, а што нам напачатку яшчэ заставалася рабіць? Але потым, як гаворыцца, нашы комплексы на справе паказалі праціўніку свае баявыя магчымасці. І ў амерыканцаў з'явіліся першыя страты — бамбардзіроўшчыкі "В-52", беспілотныя самалёты-разведчыкі. Даведаўшыся аб прысутнасці ў В'етнаме савецкіх ваенных спецыялістаў, урад ЗША хутка змяніў дружалюбны тон у адносінах з нашай краінай.

У ходзе баявых дзеянняў (і не толькі нашым палком) было збіта нямала амерыканскіх лётчыкаў. Чуў, што ў іх ліку аказаўся нават касманаўт, які вырашыў падзарабіць крыху долараў у якасці ваеннага лётчыка. Утрымлівалі палонных у некалькіх турмах. Зразумела, што кожны спаў і бачыў сябе на волі. З гэтай мэтай была хутка сфарміравана грамадская думка і аказаны палітычны націск на ўрад ЗША. У выніку нарадзілася ідэя правесці сакрэтную аперацыю па вызваленню амерыканцаў з турмы, якая знаходзілася пад Ханоем. Але дзякуючы паспяховым дзеянням разведкі ўжо за тры дні стала вядома аб нападзенні і былі прыняты неабходныя



контр-меры. Гэта аперацыя, скажу прама, значна ўзняла наш прэстыж у вачах в'етнамцаў.

Зараз ужо не з'яўляецца сакрэтам, што вайна ў В'етнаме была для ЗША палігонам, дзе ў баявых умовах імі выпрабоўвалася самая сучасная зброя і ваенная тэхніка. І наш бок, аказваючы ваенную дапамогу дружалюбнаму рэжыму Хо Шы Міна, у сваю чаргу, таксама вывучаў і рыхтаваўся да процістаяння магчымаму праціўніку, якім тады для нас лічыліся амерыканскія ўзброеныя сілы.

**— Калі можна, прывядзіце якія-небудзь канкрэтныя прыклады ўдзелу ў баявых дзеяннях.**

— Калі ласка. Прыязджаю я неяк у адзін з дывізёнаў палка, а ў гэты час якраз пачынаецца паветраны налёт амерыканцаў. Адразу ж спяшаюся на камандны пункт, каб ацаніць абстаноўку. І бачу, што цэлі імкліва набліжаюцца да зоны абстрэлу. Чакаю загаду камандзіра аб пуску ракет, а ён чамусьці марудзіць. Тактоўна намякаю, што марудзіць нельга, інакш праціўнік уцячэ беспакараным. А ён мне праз перакладчыка тлумачыць, што без дазволу палітрука (у палку — камісара) загад на абстрэл даць не можа!.. А той у гэты час па гучнагаварыцелю заклікае ракетчыкаў даць адпор амерыканскаму агрэсару і г.д., і т.п. Карацей, займаецца чыстай партпалітработай. У выніку самалёты спакойна праляцелі над баявымі парадкамі дывізіёна.

Пасля налёту праводжу разбор дзеянняў асабовага саставу. Цікаўлюся ў палітрука, наколькі ён кампетэнтны ў ведах баявой тэхнікі і тактыкі войск ППА. Аказалася, што для яго гэта — цёмны лес. Вось так і ваявалі нашы сябры...

**— Цікава, ці вялікімі былі страты ад баявых дзеянняў?**

— Ведаеце, калі шчыра, то войскі ППА ад налётаў пацярпелі не вельмі. Асноўныя страты ў жывой сіле в'етнамцы неслі на "сцежках Хошыміна", гэта значыць у час рэйдаў у тыл праціўніка.

**— У якіх умовах Вам прыйшлося выконваць інтэрнацыянальны абавязак?**

— Умовы, бясспрэчна, былі вельмі складаныя. Уся краіна разбурана (вайна ішла ўжо некалькі гадоў), людзі ў прамым сэнсе галадалі. Уяўляеце сабе, што в'етнамцу выдзялалася на месяц усяго... 900 г мяса, а ваеннаслужачаму крыху больш — 1 кг 200 г. І пры гэтым яны ўмудраліся есці тры разы на дзень (!). Хоць рацыён іх быў вельмі бедны — піяла рысу з маленькім кавалачкам мяса. Адкуль жа пасля такой кармёжкі ўзяць сілы на вайну? Праўда, нас па кантракту кармілі нядрэнна і забяспечвалі аховай і транспартам. В'етнамцы свята выконвалі наказ свайго правадыра, які гаварыў: сам гінеш, а савецкага спецыяліста ў бяды выратоўвай!

Значны ўплыў аказваў і своеасаблівы азіяцкі клімат: днём — страшэнная гарачыня, ночку — рэзкія перапады тэмпературы. Так прайшоў год, які быў нялёгкім. Бо жылі без сем'яў, без водпуску і нават без права перапіскі з роднымі і блізкімі...

**— Юрый Іванавіч, а як Вы аказаліся на Блізкім Усходзе?**

— З В'етнама я вярнуўся ў 1971 годзе на ранейшае месца службы. Паціху адыходзіў ад перажытага, радаваўся магчымасці зносін з жонкай і дачкой. А праз год мне прапанавалі новую замежную камандзіроўку. Ведаеце, была ў той час глаўкомам Войск ППА прапанавана канцэпцыя, адпаведна з якой спецыялісты, якія пабывалі ў В'етнаме, павінны прайсці адпаведную абкатку і на Блізкім Усходзе, каб потым максімальна перадаць назапашаны баявы вопыт удзелу ў лакальных канфліктах сваім таварышам па службе ў Саюзе.

У выніку ў 1972 годзе я разам з сям'ёй аказаўся ў Сірыі ў якасці ваеннага саветніка галоўнага інжынера брыгады. Праўда, тут была свая спецыфіка, якую нельга было не ўлічваць.

**— Ці нельга распавесці пра гэта больш падрабязна?**

— Па-першае, пэўны адбітак накладвала грамадска-палітычная сітуацыя ў самой краіне знаходжання. Напярэдадні выехалі савецкія ваенспецы з Егіпта. Была пэўная спроба націснуць і на прэзідэнта Сірыі, але ён адстаяў свой пункт гледжання — і мы засталіся.

Для даведкі. Сірыйская Арабская Рэспубліка (Аль-Джумхурыя аль-Арабія ас-Сурыя) — аграрная дзяржава з прамысловасцю ў стадыі развіцця ў Азіі. Колькасць насельніцтва — 10,9 мільёна чалавек (1984 г.), у асноўным — арабы (сірыйцы); каля 250 тыс.палясцінскіх бежанцаў. Пануючая рэлігія — іслам. Кіраўнік дзяржавы — прэзідэнт. З 1966 г. улада належыць леваму крылу Партыі арабскага сацыялістычнага адраджэння (ПАСА). У 1971 г. генеральным сакратаром стаў Х.Асад. Былы генерал-лейтэнант авіяцыі, ён стаў прэзідэнтам у выніку дзевятнаццатага па ліку перавароту ў краіне. Дарэчы, кіруе дзяржавай і цяпер.

Па-другое, прыходзілася ўлічваць асаблівасці сірыйскіх узброеных сіл. У іх арміі існавалі строгія парадкі па прыкладу заходніх і панавала сапраўды палачная дысцыпліна, практыкавалася фізічнае пакаранне салдат, якія правініліся. Для нас, савецкіх афіцэраў, падобныя метады здаваліся дзікасцю....

Вельмі своеасабліва была арганізавана і служба сірыйскіх афіцэраў. Так, напрыклад, пасля 17 гадзін усе яны пакідалі размяшчэнне часці і пачыналі зусім іншае жыццё. Многія з іх займаліся вечарамі бізнесам, камерцыяй. Да прыкладу, камандзір нашай брыгады з'яўляўся ўладальнікам буйнейшага ў Дамаску таксапарка. Яго намеснікі валодалі буйнымі цукровымі заводамі, рознымі фабрыкамі і магазінамі.

**— Як жа яны тады ваявалі з ізраільскімі войскамі?**

— Вось так і ваявалі. Дарэчы, пад час адпраўлення намаза (набажэнства) усе баявыя дзеянні яны спынялі, не звяртаючы ўвагі нават на налёты варожай авіяцыі. А тэхнікай былі забяспечаны самай сучаснай па тых часах. Савецкія ЗРК цудоўна паказалі свае магчымасці пад час кастрычніцкай вайны ў 1973 годзе.

3-га кастрычніка самалётамі былі тэрмінова эвакуіраваны сем'і савецкіх спецыялістаў, а праз тры дні пачаліся баявыя дзеянні. Часці ППА Сірыі прыкрывалі важныя гарады і ваенныя аб'екты. Ім прыйшлося ваяваць з сапраўднымі асамі — лётчыкамі яўрэйскай нацыянальнасці з Ізраіля, Францыі, ФРГ і Канады, якія атрымалі багаты баявы вопыт у небе В'етнама і ў ходзе першай вайны ў 1967 годзе.

**— Скажыце, якімі ж былі вынікі гэтай паветранай вайны?**

— Наколькі мне вядома, часцямі ППА ў час кастрычніцкіх падзей былі збіты 32 ізраільскія самалёты. Аднаму з дывізёнаў нашай брыгады было нават прысвоена высокае званне — "Герой Сірыі" за вялікія баявыя заслугі (збіта 12 самалётаў). У іх было правіла — узнагароджваць усё падраздзяленне, а не як у нас — некаторых людзей.

Тады мы атрымалі добры вопыт барацьбы з самаанаводнымі ракетамі і стандарт-ракетамі тыпу "Стандарт-АРМ" і "Шрайк". Жадаючы пазбегнуць страт комплексаў, прымянялі некаторыя тактычныя "хітрасці". Гэта дало магчымасць звесці выхад кабін да мінімуму.

**— Ці былі ў вас страты ў жывой сіле?**

— Самыя мінімальныя. У час майго больш чым двухгадовага знаходжання загінулі тры нашы афіцэры, але не ў баі, а ў аўтамабільнай катастрофе.

**— Як склаўся Ваш далейшы лёс?**

— Пасля камандзіроўкі ў Сірыю я трапіў служыць у Беларусь, у МВІЗРВ ППА. Служыў начальнікам курса, навуковым супрацоўнікам у лабараторыі, якая займалася праблемамі інтэнсіфікацыі вучэбнага працэсу курсантаў, дзяліўся атрыманым баявым вопытам з падапечнымі, удзельнічаў у выпуску вучэбнага дапаможніка, прысвечанага дзеянням ППА ў В'етнаме і на Блізкім Усходзе. У 1983 годзе звольніўся ў запас і ўладкаваўся працаваць ваенруком у адной са школ Мінска.

**— Юрый Іванавіч, скажыце, як адзначана выкананне Вамі інтэрнацыянальнага абавязку? Ці шмат у вас узнагарод?**

— За ўдзел у баявых дзеяннях у В'етнаме ўзнагароджан ордэнам "За баявы подзвіг" і медалём "За аказанне інтэрнацыянальнай дапамогі ў барацьбе з амерыканскімі агрэсарамі". Сірыйцы ж узнагародзілі мяне трыма ордэнамі. А вось савецкіх узнагарод за гэты перыяд, на жаль, няма. Па праўдзе кажучы, прадстаўлялі мяне да ордэна Чырвонага Сцягу, але потым кадравікі растлумачылі, што спрацаваў праславуты "прынцып нажніц". Ведаеце, што гэта такое? Гэта калі ў спісе ўзнагароджаных застаюцца толькі тыя, хто стаіць у першай палове спіса, а наступныя прозвішчы закрэсліваюцца... Хоць я за гэта не крыўдую. Ледзь не забыў, за ўдзел у баявых дзеяннях у Сірыі мне датэрмінова прысвоілі воінскае званне падпалкоўніка.




**— А як Вы цяпер, калі мінула столькі часу, ацэньваеце свой удзел у баявых дзеяннях за мяжой?**

— Скажу шчыра: мне няма аб чым шкадаваць! Мы сумленна выконвалі свой воінскі і інтэрнацыянальны абавязак, дапамагаючы дружалюбным народам са зброяй у руках адстойваць сваю незалежнасць. Так што саромецца мне няма чаго. Вось толькі крыху крыўдна, што пра нас, воінаў-інтэрнацыяналістаў, столькі год маўчалі. На вялікі жаль, некаторым з тых, хто пабываў у "гарачых кропках", падораныя ўрадам былога СССР ільготы ўжо не спатрэбіліся...

**Запісаў маёр А.Безвясельны.**

*...Ішла чацвёртая гадзіна ночы. Група затрымання аддзела пазаведамаснай аховы пры Ленінскім РАУС горада Мінска ў складзе А.Атрахімовіча, І. Шымко і А.Будышэўскага дзяжурыла на патрульнай аўтамашыне ў раёне вуліц Аранскай і Трасцянецкай, калі па рацыі прыйшло паведамленне, што ў касе аўтапарка № 4 парушана сігналізацыя. У злічаныя хвіліны група апынулася каля аўтапарка.*

# ЗВЫЧАЙНЫ КРАДЗЕЖ

Адзін з міліцыянераў заўважыў за вуглом адміністрацыйнай будовы маладога мужчыну, які трымаў у руках вялікую гаспадарчую сумку. Твар яго быў заліты крывёй. Аказалася, што гэта вадзіцель аўтапарка М. Міхно. Пры вобыску ў кішэні адзення быў знойдзены шкларэз, а ў гаспадарчай сумцы — пачкі грошай. Пры падліку аказалася больш як 32 тысячы рублёў...

У той вечар, атрымліваючы зарплату, Мікалай даведаўся, што грошай у касу паступіла шмат. Позна ўвечары са стукатам у сэрцы выйшаў з дому. З сабой узяў сумку, пальчаткі, красоўкі, пласкагубцы, нунчаку, ліхтарык, дзве адвёрткі, шкларэз, карацей, усё тое, што, на ягоную думку, магло спатрэбіцца для "справы".




План крадзяжу быў абдуманы Мікалаем загадзя, хаця потым на судзе ён і імкнуўся даказаць, што ўсё адбылося выпадкова. Праз агароджу трапіў на тэрыторыю аўтапарка, па дрэве залез на дах адміністрацыйнай будовы, а потым праз люк трапіў на вышкі, дзе, падсвечваючы ліхтарыкам, спрабаваў праламаць столь, але не здолеў. Тады па дрэве зноў злез на зямлю, у акне сталярнай майстэрні выставіў шкло і выкраў нажоўку, пілу па дрэве і сякерку.

Са здабытымі інструментамі і вяроўкай ранейшым шляхам зноў апынуўся на гарышчы. На гэты раз яму ўдалося зрабіць адтуліну ў столі касы і па вяроўцы спусціцца ў памяшканне. Святло ў касе не запальваў, каб яго не заўважылі з вуліцы.

Усё атрымалася на дзіва проста: ключ ад сейфа ляжаў у сумцы, пакінутай касіркай.

Грошай у сейфе было шмат. Столькі, што Міхно нават не адразу заўважыў, як замігала лямпачка сігналізацыі...

Кропку ў гэтай крымінальнай гісторыі паставіў Мінскі гарадскі суд, які асудзіў Міхно за крадзеж дзяржаўнай маёмасці ў асабліва буйных памерах і за нашэнне халоднай зброі без адпаведнага на тое дазволу на 5 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці і з адбываннем пакарання ў папраўча-працоўнай калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Канешне, можна зразумець суддзяў, якія назначылі такое мяккае пакаранне: шкада маладога чалавека, што сваімі дзеяннямі так сапсаваў пачатак свайго жыцця.

Між тым, закон за адны і тыя ж злачынствы павінен прымяняцца аднолькава для ўсіх. Артыкул 91-ы Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь за крадзеж дзяржаўнай або грамадскай маёмасці ў асабліва буйных памерах прадугледжвае адказнасць у выглядзе пазбаўлення волі ад 10 да 15 гадоў альбо смяротную кару. Судовая калегія прызнала выключнымі абставінамі па справе тое, што ў вінаватага на ўтрыманні знаходзілася малалетняе дзіця, таму Міхно назначылі пакаранне ніжэй самай нізкай мяжы.

Павінен адзначыць, што артыкул 42 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь дазваляе суду пры выключных акалічнасцях назначаць вінаватаму больш мяккае пакаранне, чым прадугледжана законам.

У законе не абгавораны гэтыя выключныя акалічнасці, таму суд выносіць пакаранне кожнаму вінаватаму паводле свайго меркавання. Адсюль і склалася ў народзе прымаўка: "Закон, як дышаль, куды павярнуў, туды і выйшла". За аднолькавае злачынства адзін атрымлівае 15 гадоў, другі 5 ці нават 3.

Лічу, каб не было падставы для такіх размоў, Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь неабходна ўнесці дапаўненні да артыкула 42 Крымінальнага кодэкса і ясна пералічыць гэтыя выключныя акалічнасці. Каб не паўтараліся гісторыі, падобныя да гэтай.

**Л.Гранкоўскі,**
**супрацоўнік**
**Пракуратуры РБ.**

*МЁРТВАЯ ЗОНА*

## ХТО ВІНАВАТЫ?

Добры дзень, паважаныя супрацоўнікі "Крымінальнага бюро"!

Звярнуцца да вас мяне прымусіла пісьмо маёй былой жонкі В.Суднік, якое было надрукавана ў вашай газеце ("ЧЗ", № 11). У мяне не хапае слоў, каб выказаць усё абурэнне, якое ўзнікла ў мяне пасля таго, як прачытаў яе пісьмо.

Вольга Сяргееўна, напэўна, забылася, колькі пісьмаў, пераводаў, лекаў я пасылаў ёй.

Вольга Сяргееўна забыла, што яна з 1982 года нідзе не працавала, а нам, сям'і, гаварыла, што ідзе на працу. Пра гэта мы даведаліся ў 1986 годзе, пасля першага суда.

Чаму яна вам не паведаміла, што ў 1986 годзе абласным судом г.Гродна яна была асуджана да 8 гадоў пазбаўлення волі, але ў сувязі з нараджэннем дачкі ёй далі адтэрміноўку выканання прысуду на год. Ужо можна было аб чым-небудзь задумацца? Падумаць пра дзяцей? Чаму яна не супынілася?

Новыя злачынствы і прывялі яе да другой судзімасці ў 1990 годзе. Ад суда яна ўхілялася. 11 лістапада 1989 года яе ўзялі пад ахову, а потым ужо ў 1990 годзе па настойлівай просьбе адваката назначылі медкамісію. У турме пасля медыцынскага агляду яна прызнана інвалідам II групы.

Яшчэ на волі яна адмовілася ад сваіх дзяцей: расказвала ўсім, што дзеці не яе, а сястры, якая загінула ў аварыі, і ёй даводзіцца іх выхоўваць.

Дзеці былі ёй не патрэбны. Яны служылі прыкрыццём у яе злачынных справах.

**З павагай Казімір СУДНІК.**

**Ад рэдакцыі:** *Друкуючы ліст К. Судніка, мы, тым не менш, гаворку на гэтым не заканчваем. Бо факт застаецца фактам: суд пазбавіў жанчыну бацькоўскіх правоў без яе ўдзелу. Гэта значыць, пазбавіў якую б там ні было, а ўсё ж мацi, апошняга права — быць выслуханай.*

## ІНФА-КРЫМ

### "Дзіцячыя" гульні

5 красавіка ў Валожынскі РАУС звярнулася навучэнка Мінскага тэхналагічнага тэхнікума 1974 года нараджэння, якая знаходзілася ў гасцях у родных у адной з вёсак раёна. У тры гадзіны ночы, калі дзяўчына вярталася з танцаў, яе сустрэў 19-гадовы мясцовы жыхар, зацягнуў на тэрыторыю дзіцячага садка і згвалтаваў.

### Браты ў граху

У ноч на 5 красавіка ў магазін № 61, што ў вёсцы Салтаны Маладзечанскага раёна, праніклі два рабаўнікі. Як аказалася потым, браты 1959 і 1964 гадоў нараджэння — жыхары суседняй вёскі. Злачынцы выкралі 70 бутэлек настойкі "Сузор'е", а таксама 5 кг каўбасы і 20 пачак цыгарэт, відаць, у якасці "закусі". Адзін з братоў-рабаўнікоў затрыманы.

### Навіны рыбнай лоўлі

Апоўдні 5 красавіка ў вадасховішчы непадалёк ад піянерлагера "Гарызонт", што пад Радашковічамі, мясцовыя рыбакі злавілі... труп неўстаноўленага мужчыны ўсходняй нацыянальнасці ва ўзросце 23 год, са звязанымі рукамі і нагамі і з вяроўкай на шы. Вядзецца следства.

### Толькі лічбы

Паводле звестак МУС РБ сярод злачынстваў па лініі крымінальнага вышуку ў мінулым годзе доля крадзяжоў склала 67 працэнтаў. У Віцебскай, Гомельскай і Брэсцкай абласцях павялічыліся крадзяжы са сховішчаў і крам, а ў Магілёўскай і Гродзенскай — кватэрныя. Крадзяжы зброі ўзраслі амаль напалову, а раскрываемасць знізілася на 20 працэнтаў.

### Бог не дапамог

рабочаму аднаго з прадпрыемстваў Барысава, калі той 5 красавіка ў дзве гадзіны ночы ішоў непадалёк ад царквы па вуліцы Камсамольскай: на яго напаў невядомы, ударыў па галаве і адабраў адзенне, гадзіннік і дакументы.

### На зайздрасць Майдадыру

Незвычайны крадзеж адбыўся днямі на Барысаўскім заводзе пластмасавых вырабаў: са сховішча гатовай прадукцыі невядомы выкраў... 24 тазікі.

### "Круты" маршрут

чакаў 6 красавіка шафёра аднаго з мінскіх таксапаркаў. Двое 20-гадовых хлопцаў папрасілі падвезці іх у Калодзішчы. А калі выехалі за горад, спрабавалі завалодаць машынай. Аднак не на таго напалі: няўдачлівым злачынцам самім давялося ўцякаць.

### Згарэла дача Дземянцея

У адну з раніц у Мінскі РАУС паступіла паведамленне аб тым, што ў садаводчым таварыстве "Атоліна" гарыць дача. Калі пажарныя прыбылі на месца здарэння, іх спробы патушыць пажар аказаліся дарэмнымі. Застаецца дадаць, што нешчаслівым гаспадаром аказаўся былы старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі М.І.Дземянцей. Прычыны пажара высвятляюцца.

*Парады хатняму майстру*

## МАЛЕНЬКІЯ ХІТРЫКІ



*1. Зручную вешалку для гальштукаў і паясоў можна змайстраваць з кавалка дроту, замацаванага на сценцы шафы, і некалькіх прышчэпак — у іх прасвідраваць дзірку для дроту.*

*2. Пакрыццё накшталт васковага можна атрымаць, пафарбаваўшы паверхню разведзеным клеем ПВА. Каб атрымаць патрэбны колер, можна развесці клей вадой, падфарбаванай акварэллю.*

*3. Ланцужок на дзвярах не будзе трапляць у шчыліну паміж дзвярамі і дзвярнымі вушакамі, калі побач замацаваць невялікі магніт.*

*4. У кожнага хатняга майстра знойдуцца невялікія кавалкі двухправоднага электрадроту альбо тэлефоннай "локшыны". Невялічкі кавалачак дроту, складзены ўдвая, можа служыць імправізаваным дзюбелем.*

*5. Чарговая парада ўладальнікам пыласосаў. Дзве гумавыя трубкі, адрэзаныя ад велакамеры, абароняць слабыя месцы пластыкавага шланга — там, дзе ён мацуецца да наканечнікаў.*

*6. Для купання дзіцяці ў травяным настоі ці растворы марской солі спатрэбіцца зусім няшмат лекавага раствору, калі зрабіць ванну ў ванне: напоўніўшы ванну цёплай вадой, накрыць яе поліэтыленавай плёнкай, а лекавы раствор наліць на паверхню плёнкі, замацаваўшы яе па баках.*

*7. Паралонавая губка для мыцця посуду паслужыць больш, калі скласці губку з кавалкам тканіны і прашыць іх з адлегласцямі паміж строчкамі 1,5-2 см.*

*Смачна есці!*

## Бабка з бульбы



Надзерці на тарцы сырую бульбу (400 г), дадаць пшанічную муку (5 г), перец, соль, соду, абсмажаную ў тлушчы цыбулю, усё перамяшаць і выкласці на патэльню, змазаную тлушчам. Запякаюць і падаюць, пакуль гарачая, паліўшы маслам.

## Каша па-віцебску

Бульбу адварыць, працерці і развесці цёплым малаком. Сюды ж дадаць ячныя (рысавыя або грэцкія) крупы, зварныя амаль да гатоўнасці, перамяшаць і паставіць у духоўку на 30—40 мінут. Пры падачы на стол паліваюць распушчаным сметанковым маслам. На 180 г бульбы — 65 г круп, 50 г малака.

## Напітак з апельсінавай лупіны



Лупіны 4 апельсінаў заліць 2 літрамі халоднай вады, дадаць 2 ч.лыжкі лімоннай кіслаты. Настойваць на працягу сутак. Вымачаныя лупіны прапусціць праз мясарубку і пакласці ў тую ж ваду. Потым дадаць яшчэ 2 літры вады і пракіпяціць. Цукар дадаецца па смаку. Як толькі напітак астыне, працадзіць.

*Сам-хімчыстка*

# ВЫВОДЗІМ ПЛЯМЫ



**Колькі засмучэння прыносіць выпадковая пляма на любімай кофтачцы або святочным абрусе. Зразумела, прасцей аднесці сапсаваную рэч у хімчыстку. Але можна і самім паспрабаваць пазбавіцца плямы.**

Уявім сабе такую сітуацыю: за сталом з беласнежным абрусам хто-небудзь нечакана разліў сок, варэнне або віно. Напэўна, вы тут жа ўспомніце Антона Паўлавіча Чэхава, які неяк сказаў, што сапраўдная культура не ў тым, каб не разліць за сталом соус, а ў тым, каб не заўважыць, як гэта зрабіў іншы.

Вядома, вы ведаеце, што плямы ад садавіны, віна, а таксама чаю і кавы нядрэнна адмываюцца гарачай вадою, калі гэта зрабіць зараз жа. Але не станеце ж вы выцягваць абрус з-пад страў, скідваючы талеркі на калені гасцей, каб хутчэй яго замыць. Тым не менш да хімчысткі запэцканага абруса можна прыступіць неадкладна, не супыняючы абеду і не завастраючы ўвагі гасцей на здарэнні. На любым стале абавязкова ёсць пад рукою плямавыводнік — адсарбент. Гэта звычайная кухонная соль. Густа пасыпце на пляму — і соль тут жа пачне ўцягваць вадкасць, зніжаючы канцэнтрацыю забруджанасці ў валокнах тканіны. Праз некаторы час непрыкметна змяніце забруджаную порцыю солі і насыпце новую. Працэс хімчысткі паціху будзе ісці, пакуль вы не зможаце замыць абрус.

Невялікія падпаліны на тканіне, напрыклад, ад вельмі гарачага праса патрыце палавай сырой цыбуліны. Замачыце тканіну ў халоднай вадзе, праз некаторы час канчаткова адмыйце пляму.

Цёртая цыбуля дапаможа ачысціць плямы цвілі (плесні) на баваўнянай або льняной тканіне. Ёю некалькі разоў націраюць пляму, а потым мыюць тканіну ў гарачай вадзе з пральным парашком.

Плямы ржы на тканіне змачыце лімонным сокам, потым апаласніце цёплай вадою. Тут вывядзенне плям іржы заключаецца ў растварэнні прыстаўшых да тканіны часцінак вокіслаў жалеза. Акрамя соку лімона, на такое здольны раствор воцатнай кіслаты (2 сталовыя лыжкі на стакан вады). Яго трэба падагрэць у шкляным або эмаліраваным посудзе на вадзяной лазні прыкладна да 80°. Тканіну з плямай апускаюць у раствор на 5 мін., а потым палошчуць цёплай вадою, у якую нядрэнна дадаць крыху нашатырнага спірту. З сінтэтычнымі тканінамі так абыходзіцца нельга, некаторыя з іх могуць сапсавацца. Іржа ад іх звычайна і так лёгка адыходзіць дзякуючы будове іх валокнаў. Бывае дастаткова мыцця ў цёплай вадзе з пральным парашком. Як бачыце, іржавую пляму вывесці не так цяжка, але ўсё ж лепш зусім не дапускаць іх утварэння. Для гэтага лепш не вешаць ручнікі на цвікі або ржавыя кручкі, не замочваць і не мыць бялізну ў эмаліраваных баках і тазах з пашкоджанай эмаллю. У крайнім выпадку можна пакласці на дно такога таза вялікі кавалак поліэтылену.

Плямы ёду выводзяцца крухмалам. Са школьных часін усім вядома, што ёд з'яўляецца надзейным індыкатарам крухмалу. Ён выяўляе яго прысутнасць, утвараючы з крухмалам цёмна-сіняе злучэнне, лёгкарастваральнае ў халоднай вадзе.

Каб вывесці з абруса воск ад свечкі, на гэта месца кладуць з двух бакоў папяровыя сурвэткі (прамакальную паперу) і прасуюць, некалькі разоў перасоўваючы пракладкі, каб папера лепш увабрала ў сябе разагрэты воск.

Дрэнна, калі да мэблевай абіўкі або да адзення прыліпла жавальная рызінка. Ні адна хімчыстка не возьмецца яе вывесці. Тут хімія не дапаможа, прыйдзецца звярнуцца да фізікі. Прыкладзіце да забруджанага месца кавалачак лёду і патрымайце некалькі мінут. Зацвярдзелыя сляды жавальнай рызінкі аддзеляцца так лёгка, як засохлая гліна.

Свежыя плямы крыві не спрабуйце адмыць гарачай вадою. Ад гэтага бялок, які знаходзіцца ў крыві, згусае, звязваецца з валокнамі тканіны — і цёмны след не вывесці ўжо нічым. На гэты выпадак няма нічога лепшага за халодную ваду. След, які застаўся пасля прамывання, адмыйце ў халоднай вадзе, прымяняючы гаспадарчае мыла або пральны парашок.

Каб вывесці з тканіны даўнеўшыя плямы крыві, тканіну трэба замачыць у растворы кухоннай солі — 1 сталовая лыжка на літр халоднай вады. Потым адмываюць тканіну ў цёплай вадзе з гаспадарчым мылам або пральным парашком. Раствор солі дапамагае пры ачыстцы і ад іншых бялковых забруджванняў. Напрыклад, насоўку лягчэй адмыць пасля замочкі ў такім растворы — бялковыя рэчывы лепш раствараюцца ў слаба падсоленай вадзе. Не думайце, што справа пойдзе хутчэй, калі пакласці солі больш: пры высокай канцэнтрацыі яе бялок згусае і яго нельга будзе вывесці.

Шмат засмучэння прыносяць плямы на адзенні і абіўцы мэблі. Паспрабуйце абысціся, напрыклад, цёплым мыльным растворам. Ім нядрэнна выводзяцца свежыя плямы і нават незасохлая алейная фарба. Калі магчыма, пад тканіну падкладваюць чыстую анучку. Абмакніце ў мыльны раствор марлевы тампон або чыстую зубную шчотку, патрыце пляму і змыйце чыстай вадою.

Паступова, пасля чысткі пляма знікае, але вакол месца, дзе яна была, утвараецца бруднаваты арэол. Гэта адбываецца з-за таго, што з рэчы не выбілі пыл. Таму перад апрацоўкай трэба абавязкова добра пачысціць тканіну шчоткай або пыласосам. А саму пляму трэба чысціць мыльным растворам, водзячы шчотку ад краёў да сярэдзіны.

Для вывядзення плям ад тлушчу, асабліва са светлых баваўняных, ільняных, шарсцяных і шаўковых тканін, можна выкарыстоўваць сухі парашок мелу або сухі тальк. Для гэтага свежыя плямы ад тлушчу дастаткова пасыпаць парашком мелу з правага і левага боку тканіны, пакрыць чыстай белай паперай і прыціснуць якім-небудзь цяжкім прадметам. На наступны дзень трэба старанна выбіць і пачысціць рэч.

Пушыстае, з доўгім ворсам футра або пуховую хустку неабходна асцярожна пачысціць, пасыпаць крухмалам або талькам і злёгку пацерці ў руках. Крухмал і тальк у гэтым выпадку працуюць як адсарбенты.

Эфектыўна выкарыстоўваць для падобнай чысткі нагрэтае на вадзяной лазні ў чыстым металічным або керамічным посудзе жытняе або пшанічнае вотруб'е. Яно не павінна быць вельмі гарачым (тэмпература іх павінна быць такая, каб вотруб'е можна было трымаць у руцэ), інакш тлушчавыя забруджванні полімерызуюцца і ствараюць плёнку, якая не выводзіцца. Нагрэтым вотруб'ем праціраюць забруджанае месца. Пры адсутнасці вотруб'я карыстаюцца патоўчанымі аўсянымі шматкамі "Геркулес". Пасля праціркі вотруб'ем футра чысцяць адзежнай шчоткай і вытрасаюць. Для гэтага спатрэбіцца і пыласос з насадкай-шчоткай.

Калі-нікалі змешваюць крухмал з бензінам і гэту масу наносяць на ворс. Даўшы сумесі высахнуць, яе ачышчаюць.

Усе гэтыя старыя народныя сродкі прызначаліся для натуральных матэрыялаў і да таго ж для зусім іншых забруджвальнікаў, чым сустракаюцца зараз. Таму перад тым, як прымяніць той ці іншы рэцэпт для чысткі адзення або мэблі, абавязкова паспрабуйце яго дзеянне спачатку дзе-небудзь на споднім баку, а для мэблі — ззаду або знізу.

*З жыцця гум. зорак*

# УВАГА, ТАЛЕНТ!













"Гарчычніку" пашчасціла. У ягоных кулуарах з'явіўся новы здольны аўтар. 30-гадовага ўзросту. З сярэдняй спецыяльнай адукацыяй. У былым будаўнік, а цяпер часова не працуючы, але затое студэнт. Новы наш здольны аўтар вучыцца ў Завочным народным універсітэце мастацтваў. Можа з-за таго, што універсітэт знаходзіцца ў далёкай Маскові, наш здольны аўтар не любіць расказваць пра сябе. Адзінае, што выцягнуў з аўтара сваімі абцасамі "Гарчычнік", дык гэта тое, што памер шапкі ў яго — 56-ы, а ботаў — 42-гі. Другое "адзінае" — наш новы здольны аўтар жыве ў вёсцы Рудніку Каралішчкага раёна.

Астатняе за яго гавораць малюнкі. Такім чынам, знаёмцеся:

Мікола САЎЛЮК!

## ДЭСКАНТЭНТ-АНКЕТА "ГАРЧЫЧНІКА"

Для далейшага высвятлення кола сваіх чытачоў "Гарчычнік" прапануе запоўніць ананімную сацыялагічную анкету, якую вам будзе неабходна даслаць у "ЧЗ" (не блытаць з Чэлябінскім трактарным заводам) да канца студзеня бягучага года.

**1. Якім вы сябе лічыце? (патрэбнае падкрэсліць)**

а/ кемлівым;
б/ разумным;
в/ таленавітым.

**2. Які горад вы лічыце сталіцай Рэспублікі Беларусь?**

а/ Маскву;
б/ Вільню;
в/ Мінск;
г/ Менск.

**3. Якую грашовую адзінку вы лічыце найбольш мэтазгоднай для Беларусі?**

а/ рубель;
б/ талер;
в/ долар;
г/ "Даляр".

**4. Ваша стаўленне да спекуляцыі?**

а/ надзвычай адмоўнае;
б/ адмоўнае, але станоўчае;
в/ станоўчае;
г/ я сам спекулянт.

**5. З якой мэтай вы падпісаліся на "ЧЗ"?**

а/ каб не пакінуць журналістаў "ЧЗ" беспрацоўнымі;
б/ я даўні прыхільнік "Дзяўчыны тыдня";
в/ я працую ў гэтай газеце;
г/ я закахана ў намесніка рэдактара.

**6. Як "Чырвонка" трапляе да вас?**

а/ па пошце;
б/ краду яе ў райбібліятэцы;
в/ мой сын-піянер выпісвае;
г/ мой бацька-пенсіянер выпісвае.

**7. За якімі рубрыкамі газеты вы цікуеце з большай увагай?**

а/ за "Фактам";
б/ за "Коштам";
в/ за граматычнымі памылкамі;
г/ за зменамі ў складзе рэдакцыі.

**8. Ваша імя?**

а/ Алесь;
б/ Сцяпан;
в/ Вінцук;
г/ Лох;
д/ Дух;
е/ Малс.

**9. Ваша стаўленне да гумару?**

а/ я за гумар;
б/ я супраць гумару;
в/ мне цяжка адказаць;
г/ раней я любіў гумар, цяпер — не;
д/ гумар, як і каханне, не існуе;
е/ га-га-га;
ж/ ой-ёй-ёй;
з/ пф-ф-ф.

Анкета падрыхтавана з дапамогай СНДЦ БДУ імя Леніна (Ф.Скарыны).

*Гісторыйкі абсурду*

Ігар СІДАРУК

## Гісторыя Табакі

Аднойчы Табака трапіла ў нос не таму чалавеку. Не той чалавек вельмі здзівіўся, аднак чхаць не стаў, бо лічыў гэта не толькі прывілеяваным заняткам, але і правілам дрэннага тону. Табака вельмі спужалася, што застанецца навечна ў носе, і арганізавала рэферэндум. На прадмет таго, ці мае права кірпаты нос нішчыць свабоды Табакі. Сабраўшы і падлічыўшы галасы, яна даведалася, што галасоў цэлых адзін. Тады Табака кінула покліч:"Бі кірпатых!" Аднак біць кірпатых ніхто не стаў, бо ў крамы завезлі прапелеры, і ўсе кінуліся чытаць інструкцыі, як імі карыстацца. Тады Табака закляйміла ганьбай кірпатых, крамы, прапелеры і інструкцыі і пачала збірацца ў эміграцыю, адкрыўшы для гэтага валютны рахунак для добраахвотных ахвяраванняў.

На эміграцыі Табацы было кепска, і яна памерла ад тугі па кірпатых насах.

*Што, дзе, калі*

## Навіны тэлебачання

Гродна. Адміністрацыя гасцініцы "Нёман" упэўнена, што па тэлевізары ў вобласці можна глядзець толькі адну праграму. Дырэктар гасцініцы У. І. Фядосаў кажа пастаяльцам:"Гэта ж гасцініца другой катэгорыі. У гасцініцах вышэйшай катэгорыі можна глядзець усе тры ці чатыры – з улікам польскага тэлебачання". А вось грошы за карыстанне тэлевізарам у "Нёмане" бяруць такія ж, як і ў гасцініцах вышэйшай катэгорыі.

М. Багадзяж.

*Кінаафіша*

## "Неўстаноўленая асоба"

Каляровую мастацкую кінастужку з такой назвай стварылі кінематаграфісты Адэскай кінастудыі. Сцэнарый да яе напісаў Сяргей Усцінаў, рэжысёр-пастаноўшчык Наталля Збандут.

...У рэдакцыі адной з газет працуе прывабная маладая журналістка, якую завуць Вольга. У гэтым жа горадзе ў інтурыстаўскім рэстаране пастаянна "працуе" валютная прастытутка Саша з няхітрай мянушкай Шу-шу. Здавалася б, што можа быць агульнага ў іх паміж сабой? Уся справа ў тым, што аднойчы дзяўчыны выпадкова сустрэліся ў цырульні і з хваляваннем заўважылі, што неверагодна падобныя адна на адну!..

Ролі дзяўчын-двайнікоў паспяхова выконвае папулярная актрыса Алена Маёрава.

## "Аддушына"

Гэта каляровая мастацкая кінакарціна пастаўлена рэжысёрам Андрысам Розенбергам па сцэнарыю Валерыя Тадароўскага ў творча-вытворчым аб'яднанні "Латвіяс кіно" з удзелам фільм-студыі "Алко". У аснову яе пакладзена аднайменная аповесць Уладзіміра Маканіна.

...У старэючай паэтэсы Аляўціны, незамужняй вытанчанай дамы, ёсць два палюбоўнікі. Аляўціна шануе іх, папярэджвае магчымыя ўспышкі рэўнасці, далікатна змякчае вострыя вуглы. Галоўныя ролі выконваюць Уладзімір Меншыкаў, Валянціна Цялічкіна, Гірт Якаўлеў і іншыя акцёры.

## "Маладая Кацярына"

Карціна каляровая, двухсерыйная. Яна створана кінематаграфістамі ЗША, Англіі, Канады з удзелам кінастудыі "Ленфільм". Аўтар сцэнарыя — Крыс Браянт, рэжысёр — Майкл Андэрсан.

...Расія XVIII стагоддзя. Імператрыца Лізавета Пятроўна падбірае нявесту Пятру III. Выбар выпаў на прынцэсу Сафі з беднага нямецкага княства Анхальт-Цэрбст. Гэтаму шлюбу ўсяляк працівіцца яснавяльможны граф Варанцоў. Прынцэса Сафі ўсё ж прыязджае ў Расію, і, прыняўшы праваслаўе і новае імя Кацярыны, становіцца жонкай Пятра...

Гледачоў, прывабяць пастановачны размах стужкі і цудоўная ігра выдатных зорак свету — Франка Нэро, Ванэсы Рэдгрэйв, Максімільяна Шэла, Джуліі Орманд, і іншых.



## "Бум"

Так называецца каляровая лірычная кінакамедыя, створаная кінематаграфістамі Францыі. Яна пастаўлена рэжысёрам Клодам Пінота па сцэнарыю, напісанаму ім у садружнасці з Даніэлем Томпсанам.

Гераіня стужкі — трынаццацігадовая Вік — разам з сям'ёй пераязджае ў Парыж. Пачынаюцца заняткі ў новай школе. Да дзяўчыны прыходзіць першае каханне. Але з кім жа падзяліцца ёй сумненнямі і перажываннямі? Бацькі занятыя сваімі праблемамі. На дапамогу прыходзіць любімая, самая лепшая на свеце прабабка, якая за сваё доўгае жыццё перажыла шмат рамантычных прыгод.

Дзяжурны рэдактар П. СІМАНАЎ

Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: ЦК ЛКСМБ
Выдавец: газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь"
Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Скарыны, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.
Газета набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро газетна-выдавецкай фірмы "Белая Русь".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.
Індэкс 63906. Тыраж 17 000.

Галоўны рэдактар Уладзімір БЕЛЬСКІ.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ: Алена АГІБАЛАВА, Валерый ВАРАНЕЦКІ, Валерый ІВАНОЎ, Алег КАМІНСКІ (першы нам. гал. рэдактара), Віктар ЛЮКОВІЧ, Мікалай ЛАРКОВІЧ, Алесь МАСАРЭНКА, Станіслаў НІЧЫПАРОВІЧ, Алесь ПАЛЫНСКІ, Наталля ПЛЫТКЕВІЧ, Павел СІМАНАЎ (нам. гал. рэдактара), Алег СЛУКА, Кузьма ШАПЛЫКА.

*Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзеных фактаў, цытат, эканамічных звестак, асабістых імён, геаграфічных назваў і іншай інфармацыі, а таксама за тое, каб у матэрыялах не ўтрымлівалася звестак, якія не падлягаюць адкрытай публікацыі. Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.*

*Рэдакцыя рукапісы не рэцэнзуе і не вяртае.*

Рэдакцыя газеты "Чырвоная змена" прымае заказы на змяшчэнне аб'яў, рэкламы. Даведкі па тэлефонах 32-12-82,32-50-01.

Зак. № 15.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12